



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

4 снежня 2020 года №49 (1336) 18+


# «З-за розных палітычных поглядаў не размаўлялі з мамай два тыдні»

## Чытачы расказалі, якія канфлікты з блізкімі ў іх узнікаюць з-за палітыкі

старонка 8

Падчас адной з акцый пратэсту і праўладнага мітынгу ў Маладзечне.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК і Настассі УТКІНАЙ. Калаж Ігара ПАЛЫНСКАГА.



«Мітынгі з'яўляюцца для нас індыкатарам чалавечнасці». Размова са святаром

старонка 5



Што прыносілі мінулыя гады Быка ў Маладзечна

старонка 17

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# У Залессе прыязджала Мумі-мама

СМАРГОНЬ

**Прадстаўнікі Аддзялення амбасады Фінляндыі ў Беларусі зладзілі для вучняў залескай школы Смаргонскага раёна свята культуры нардычнай краіны.**



Вучні залескай школы ахвотна фатаграфаваліся з Мумі-мамай.

Імпрэза ў межах правядзення выставы коміксаў «Мулі-троль і камета» прайшла ў залескай школе ў суботу, 28 лістапада. На сустрэчу са школьнікамі прыехала каардынатар праектаў амбасады **Вольга Рызмакова** і некалькі сяброў фінскага клуба ў Мінску. У школе сабраліся вучні пачатковай школы – дзеці ад шасці да 11 гадоў.

**Сёлета мумі-тролі, створаныя фінскай пісьменніцай і мастачкай Тувэ Янсан, святкуюць 75-годдзе.**

Пра тое, якой была сустрэча, расказала Вольга Рызмакова.

Залескія вучні з цікавасцю паслухалі гісторыю стварэння чароўнага свету Даліны мумі-троляў, а таксама змаглі паспрабаваць шчасця ў віктарыне на веды аб Фінляндыі: найбольш эрудзіраваныя і зацятыя выйгралі прызы ад Аддзялення амбасады.

**Кожны вучань атрымаў у падарунак маляўнічыя брашуры пра Фінляндыю і змог пачаставацца на салодкім стале.**

Аднак найвялікшым падарункам дзецям была сустрэча з роставай лялькай Мумі-мамай – да яе адразу стварылася чарга як дзяцей, так і дарослых, бо ўсім хацелася сфатаграфавацца з Мумі-мамай.

У час каронавірусных абмежаванняў Аддзяленне амбасады вырашыла не праводзіць шматлюдныя мерапрыемствы ў абласных цэнтрах, а замест гэтага арганізавала экспазіцыю выставы мумі-коміксаў у невялікіх населеных пунктах. Падарожжа Мумі-троля пачалося ў жніўні з барысаўскай бібліятэкі. Пасля мумі-коміксы завіталі ў Смаргонь. Іх можна было ўбачыць у лістападзе ў мясцовай бібліятэцы, а таксама ў гімназіі.

– Мы былі рады магчымасці паказаць выставу ў Залессі, бо акрамя выдатнага музея-маёнтка Агінскага Залессе можа сапраўды ганарыцца сваёй цудоўнай школай! – каментуе каардынатар праектаў амбасады.

Школьнікі малодшых класаў пакуль няшмат ведаюць пра іншыя краіны, у тым ліку і Фінляндыю. Нават пра мумі-троляў большасць з іх упершыню даведалася толькі дзякуючы выставе.

**– Спадзяюся, хтосьці з дзяцей пасля нашай сустрэчы натхніўся на тое, каб самастойна прачытаць кніжкі аб прыгодах жыхароў Даліны мумі-троляў, да таго ж гэта можна зрабіць цяпер і па-беларуску, – кажа Рызмакова.**

Мы запыталіся ў спадарыні, што яднае беларусаў і фінаў:

**– На маю думку, у першую чаргу, нас яднае любоў да прыроды сваёй краіны, а таксама павага да нацыянальнай культуры і гісторыі.**

Выстава мумі-коміксаў працягне сваю вандроўку і адправіцца ў Салігорск.

Ёсць таксама дамовы і з іншымі гарадамі.



Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ


Фота pixabay.com.

Браць адпачынак па доглядзе за дзіцем у Германіі бацькі могуць па чарзе.

# Ахова мацярынства і бацькоўскі час

## Які дэкрэтны прапануюць жанчынам у Германіі

**У Беларусі ў чарговы раз загаварылі аб скарачэнні дэкрэтнага адпачынку. Пару тыдняў таму Аляксандр Лукашэнка заявіў пра важнасць «абмеркаваць магчымасць скарачэння дэкрэтнага, які ў нас адзін з самых працяглых у свеце». Падтрымала яго міністр працы і сацабароны Ірына Касцевіч.**

На яе думку, калі ў Беларусі забяспечаць паўнавартасны догляд за дзецьмі ранняга ўзросту, будзе дастаткова ясельных груп, то дэкрэтны можна скараціць.

А які дэкрэтны дзяржава прапануе жанчынам у Германіі?

**Дапамога па цяжарнасці ў гэтай краіне – не адна выплата, а сукупнасць плацяжоў. Для выплаты кожнага ў іх вызначаныя спецыяльныя абставіны і сумы.**

Апошнія залежаць ад розных фактараў, уключаючы ўстанову, куды падаецца запыт, і сістэму разліку плацяжоў.

### Адпачынак па цяжарнасці і родах – ахова мацярынства

Гэты перыяд называецца Mutterschutz – ахова мацярынства. Гэта, па сутнасці, бальнічны, і выдаецца за шэсць тыдняў да даты родаў, якую пацвердзіў доктар.

**Згодна з гэтым дакументам, жанчына можа знаходзіцца на бальнічным яшчэ на працягу двух з паловай месяцаў пасля з'яўлення дзіцяці на свет.**

Выплаты па Mutterschutz робяцца працадаўцам сумесна з сацыяльнымі (страхавымі) службамі. Іх сума складае 100% заробку, які атрымлівала парадзіха ў Германіі.

**Тэрмін восем тыдняў не азначае, што жанчыне абавязкова трэба вярнуцца на працу, бо заканадаўствам прадугледжаны іншыя віды дапамогі па доглядзе за дзіцем.**

### За аховай мацярынства ідзе час бацькоў

У Германіі дзейнічае Elternzeit – «час бацькоў». Гэта значыць, што і бацька, і маці могуць скарыстацца правам на адпачынак па доглядзе за дзіцем, пакуль дзіцяці не споўніцца тры гады.

Час бацькоў даецца на наступных умовах:

– браць адпачынак бацькі могуць толькі па чарзе;

**– кожны з бацькоў можа браць адпачынак тэрмінам не больш за год;**

– мінімальны тэрмін адпачынку можа складаць два месяцы.

У некаторых федэральных землях «час бацькоў» распаўсюджваецца на дзяцей ад трох да васьмі гадоў.

**Калі бацькі захочуць узяць такі адпачынак, яны павінны загадзя, за сем тыдняў да вызначанага тэрміну, папярэдзіць працадаўцу. У адваротным выпадку можна атрымаць адмову пра афармленне водпуску з жаданай даты.**

### Частковая занятасць у дэкрэтным адпачынку

Знаходзячыся ў дэкрэтным адпачынку, бацькі могуць працаваць няпоўны працоўны дзень са знаходжаннем на працы не больш за 30 гадзін на тыдзень. Такі варыянт дае магчымасць атрымліваць дапамогу па доглядзе за дзіцем, а таксама мець заробак.

**Аксана ЯРАШОНАК**
**паводле БелТА**
**і Zeitung Aussiedlerbote.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**2 551**

столькі бібліятэк працавала ў Беларусі ў 2019 годзе

Паводле Белстата.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 26.11 | 3.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5600 | 2.5881 |
| Еўра | 3.0438 | 3.1249 |
| Злоты, 10 | 6.8171 | 6.9892 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3894 | 3.4247 |
| Грыўня, 100 | 9.0188 | 9.1056 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 25.11 | 2.12 |
| Еўра | 2.9800/3.0800 | 3.0500/3.1500 |
| Долар ЗША | 2.5000/2.5900 | 2.5600/2.6400 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 25.11 | 2.12 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,88 | 23,96 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,90 | 3,10 |
| Сасіскі, 1 кг | 7,78 | 7,87 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | 9,50 |
| Карп жывы, 1 кг | 5,80 | 5,80 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,90 | 4,70 |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | 5,80 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,60 | 17,80 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | 2,15 |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | 2,40 |
| Алей, 1 л | 3,40 | 3,40 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | 5,50 |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | 2,20 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | 1,70 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | 1,70 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,10 | 2,10 |
| Агуркі, 1 кг | 3,50 | 4,50 |
| Баклажаны, 1 кг | 4,50 | 6,90 |
| Бульба, 1 кг | 0,45 | 0,40 |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | 0,60 |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | 0,45 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,70 | 1,90 |
| Морква, 1 кг | 0,80 | 0,80 |
| Памідоры, 1 кг | 4,30 | 4,50 |
| Перац, 1 кг | 6,50 | 6,90 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | 0,90 |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | 5,90 |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Авакада, 1 кг | – | 12,00 |
| Апельсіны, 1 кг | 4,90 | 4,90 |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | 2,60 |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | 4,90 |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | 4,50 |
| Мандарыны, 1 кг | 4,30 | 4,50 |
| Хурма, 1 кг | 3,90 | 3,90 |
| Яблыкі, 1 кг | 2,30 | 2,30 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Масла, 1 кг | 17,00 | 17,00 |
| Сала, 1 кг | 13,00 | 13,00 |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | 8,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | 4,00 |

## Кіроўца наехаў на бетонную агароджу

МАЛАДЗЕЧНА

26 лістапада ў 13:30 здарылася аварыя ў Маладзечанскім раёне.

24-гадовы мінчанін на аўтамабілі «Сітраэн-Ксара» ехаў па аўтадарозе Асавец-Радашкавічы-Гарнякі. Кіроўца няправільна выбраў хуткасць, і на закругленні дарогі ўправа са спускам яго занесла. Машына наехала на бетонную агароджу моста праз водны канал злева па ходу руху.

У кіроўцы – шматлікія ўдары. Але яго не шпіталізавалі, паведаміла інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

Мужчына быў прышпілены. На аўтамабілі стаялі летнія шыны.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Выратавальнікі выцягнулі карову з балота

АСТРАВЕЦ

Незвычайную аперацыю па выратаванні каровы правялі астравецкія ратавальнікі. Увечары 26 лістапада а палове пятай на пульт дыспетчара раённага аддзела надзвычайных сітуацый паступіў званок з просьбай дапамагчы выцягнуць карову з балота паблізу хутара Кланішкі.

Гаспадары распавялі, што днём навязалі сваю карову з цялём, а тая сарвалася і сышла на балота. Цялё яны выцягнулі самі, а з каровай усё аказалася больш складана. На выклік адправіліся выратавальнікі з Варнянаў.

Выцягнуць карову аказалася не так проста.

> Аперацыя па выратаванні ўскладнялася тым, што ўжо было цёмна, а жывёла знаходзілася ў цэнтры балота.

Да таго ж у работнікаў МНС угразла і машына – прыйшлося выклікаць на дапамогу аддзяленне пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада на аб'ектах АЭС.

Сумеснымі намаганнямі карову ўдалося вызваліць з балота. Карова і цялё не пацярпелі.

**Паводле ostrovets.by.**

## На пажары загінула гаспадыня дома

СМАРГОНЬ

29 лістапада на пажары ў Смаргоні загінула жанчына. Следчыя высвятляюць абставіны здарэння.

Вядома, што раніцай ратавальнікам паступіла паведамленне аб узгаранні дома ў горадзе. Пасля ліквідацыі пажару ў пакоі знайшлі цела жанчыны без прыкмет жыцця. Паводле папярэдняй інфармацыі, загінулая – 86-гадовая гаспадыня дома.

**Паводле Следчага камітэта.**

## Мужчына заплаціць амаль дзве тысячы за бабра

ВІЛЕЙКА

Каля вёскі Ручаўя на прытоку Віліі мужчына ўсталяваў дзве пасткі на бабра. З сабой прыхапіў яшчэ і пяць металічных завес, якія збіраўся паставіць у іншым месцы. Зрабіць гэта браканьеру перашкодзіў начальнік Мядзельскай МРІ **Уладзімір Лемянтовіч** – ён атрымаў інфармацыю аб дзеяннях браканьера і паехаў на месца парушэння.

Пры аглядзе дома затрыманага знайшлі мяса бабра, якое паляўнічы-нелегал здабыў напярэдадні, а таксама незарэгістраванае ружжо. Браканьера прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці. За незаконна здабытага бабра прыйдзецца выплаціць каля 1,9 тысячы рублёў.

**Паводле gosinspekciya.gov.by.**

## Пагрузчык з МАЗам на буксіры не прапусціў легкавік

МАЛАДЗЕЧНА

Аварыя здарылася 27 лістапада каля паловы чацвертай дня, расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

41-гадовы кіроўца, жыхар Маладзечанскага раёна, на пагрузчыку «Амкадор» на гібкай счэпцы буксіраваў МАЗ. На дзявятым кіламетры аўтадарогі Краснае-Ілья ён, выязджаючы з другараднай дарогі, не прапусціў аўтамабіль «Лада-Гранта», які ехаў па галоўнай дарозе. Легкавіком кіраваў 39-гадовы жыхар Маладзечаншчыны.

Кіроўца «Лады» атрымаў цялесныя пашкоджанні, ён быў прышпілены. Абодва кіроўцы – цвярозыя.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота заблечанае Дыянай ГАЛУЗАЙ.

28 лістапада. ДТЗ на пуцеправодзе ў Маладзечне.

# У мінулыя выхадныя ў рэгіёне было шмат аварый на абледзянелай дарозе

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

**У суботу, 28 лістапада, толькі за адну гадзіну на пуцеправодзе ў Маладзечне здарылася шэсць ДТЗ. На Вілейшчыне – сем за дзень.**

Усе шэсць ДТЗ за гадзіну адбыліся на пуцеправодзе ад 9:00 да 10:00, раскозала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**. Сярод складзеных пратаколаў былі і еўрапратаколы – гэта значыць, шкода склала да 800 еўра.

Па словах начальніка ДАІ Вілейкі **Руслана Скварцова**, сем ДТЗ здарылася 28 лістапада на Вілейшчыне.

Пад Сосенкай у ДТЗ трапілі МАЗ, «Таёта» і «Рэно-Докер». Кіроўца «Таёты», жыхар Плешчаніцаў, ехаў з боку Сосенкі і невядома чаму сутыкнуўся з аўтамабілем «Рэно-Докер», якім кіраваў жыхар Мядзельшчыны.

З-за сутыкнення «Рэно» выехала на сустрэчную паласу, дзе сутыкнулася з МАЗам. Кіроўцаў не шпіталізавалі.

Па словах работнікаў ДАІ Вілейкі і Маладзечна, прычыны ўсіх здарэнняў у няправільным выбары хуткасці і невыкананні дыстанцыі на абледзянелай дарозе.

Дзяржаўтаінспекцыі Вілейкі і Маладзечна нагадваюць, што ад 1 снежня на аўтамабілях павінны стаяць зімовыя шыны. Ад гэтага часу і да 1 сакавіка кіроўцаў «непераабутых» машын чакае адміністрацыйнае пакаранне па частцы 3 артыкула 18.12 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях. Санкцыі – папярэджанне або штраф да адной базавай велічыні – да 27 рублёў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзяўчыну з Вязыні падазраюць у махлярстве

ВІЛЕЙКА

У адносінах да 27-гадовай жыхаркі Вязыні днямі ўзбудзілі крымінальную справу за махлярства, паведаміў карэспандэнту намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

Сёлета ў жніўні яна ўгаварыла сваю знаёмую аднавяскоўку набыць у растэрміноўку тэлевізар за 2 420 рублёў. Фігурантка паабяцала знаёмай, што будзе штомесяц плаціць па растэрміноўцы. Аднак плаціць яна не збіралася. А набыты тэлевізар прадала праз інтэрнэт па нізкай цане.

25 лістапада яна ўгаварыла іншую знаёмую набыць у растэрміноўку мабільны тэлефон маркі Apple iPhone 11 128GB, які каштаваў амаль 2 800 рублёў. Фігурантка адразу ж прадала праз інтэрнэт па заніжанай цане набыты мабільнік.

На жыхарку Вязыні завялі крымінальную справу па артыкуле 209 Крымінальнага кодэкса.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчыну падазраюць у закліку падпаліць пракуратуру

АШМЯНЫ

Завялі крымінальную справу па частцы 1 артыкула 289 Крымінальнага кодэкса – акт тэрарызму.

Падазраюць, што мужчына ў адным з тэлеграм-каналаў заклікаў падпаліць кактэйлямі Молатава пракуратуру ў Ашмянах. Пакаранне па артыкуле – ад 8 да 15 гадоў.

**Паводле grodnonews.by.**

## Шукаюць сведкаў аварыі на Касманаўтаў, дзе пацярпеў пешаход

МАЛАДЗЕЧНА

Аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС шукае сведкаў і відавочцаў здарэння ў Маладзечне.

23 лістапада пасля шасці вечара невядомы кіроўца на аўтамабілі неўсталяванай маркі, рухаючыся па вуліцы Касманаўтаў з боку Віленскай, наехаў на 29-гадовага пешахода-маладзечанца. Той ішоў па пешаходным пераходзе злева направа.

У выніку здарэння пешаход атрымаў цялесныя пашкоджанні.

Просьба сведак і відавочцаў дадзенага здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: Маладзечна, вуліца Дудко, 1–18 або патэлефанаваць: **(8-0176) 74-53-40, 74-53-43** альбо **102**.

**Дыяна ГАЛУЗА, АДАІ Маладзечна.**

# «Мітынгі з'яўляюцца для нас індыкатарам чалавечнасці»

**Каталіцкі святар з Маладзечна Андрэй Квацінскі паразважаў над пытаннямі пра веру, Беларусь, палітыку і іншыя рэчы.**



Каталіцкі святар Андрэй Квацінскі.

Мы прывядзём некаторыя вытрымкі з размовы. Інтэрв'ю цалкам можна паглядзець на ютюб-канале «Рэгіянальнай газеты». QR-код для пераходу на яго размешчаны ў канцы тэксту.

**– Фальсіфікацыя выбараў – гэта грэх?**

– Так, гэта безумоўна грэх, прычым пры любых абставінах: тут няма ніякага апраўдання. Асабістую віну за фальсіфікацыю можа змякчыць толькі тое, што чалавек робіць гэта пад нейкім моцным націскам, напрыклад, шантажу ці агрэсіі якойсьці. Гэта змякчае віну, але ўсё роўна ад яе не пазбаўляе. Чаму гэта грэх? Бо гэта прамое парушэнне восьмай запаведзі: гэта хлусня, а хлусня – заўсёды зло.

**– Як ставіцеся да таго, што мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча не пускаюць у Беларусь?**

– Як можна ставіцца да таго, што твайго блізкага не пускаюць дамоў? Калі ты разумееш, што тое, у чым яго абвінавачваюць, – няпраўда, прычым не толькі на юрыдычных нейкіх падставах, але і проста па-чалавечы? Няўжо не было магчымасці дыялогу? Кандрусевіч заўсёды быў гатовы да яго. Чаму так здарылася? Гэта нават у галаве не ўкладваецца.

Амаль увесь беларускі народ абураны гэтым, а мы, каталікі і святары, абураныя яшчэ больш. Было б правільна, калі б мітрапаліт вярнуўся, каб тут ужо вырашаць усе пытанні. Ані логікі ў такіх паводзінах дзяржавы, ані справядлівасці не бачна.

**– Калі ў Маладзечне праходзілі мітынгі, як вы рэагавалі і ці падтрымлівалі іх?**

– Для мяне асабіста гэтыя мітынгі былі такім момантам майго абавязку быць разам з людзьмі. Нават калі наша не вельмі палітычна актыўнае Маладзечна выйшла, я зразумеў, што ў нашай краіне адбываецца нешта незвычайнае. Я, канешне ж, святар, але, па-першае, я – беларус, грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Шмат каго здзівіла б пазіцыя касцёла: калі б прыхільнікі ўлады атрымлівалі несправядлівыя прысуды, калі б іх кідалі ў турмы і білі, каталікі патрымалі б меnавіта іх.

Мяне захапляе ў беларусах тое, што мы вельмі добра спраўляемся са сваім заданнем. Мітынгі з'яўляюцца для нас індыкатарам чалавечнасці. Яны паказалі, што беларусы маюць сваю годнасць, што гатовыя рабіць дабро і будаваць вельмі добрую краіну.

Беларусы трымалі свае сімвалы ў шафах, каб потым аднойчы адбыўся вось такі выбух нацыянальнасці, які паказаў, што «беларусы» – гэта штосьці глыбей за Рэспубліку Беларусь.

**Аляксей КАСТОЎСКІ.**
**Фота аўтара.**

**Відэа** размовы глядзіце на YouTube-канале «Рэгіянальнай газеты»



# Валанцёры сабраліся на Астравеччыне, каб абараніць нераст рэдкай рыбы

**У канцы лістапада валанцёры разбілі лагер на рацэ Тартак Астравецкага раёна. Неабыякавыя да праблем стронгі людзі сабраліся, каб абараніць рэдкую рыбу ў час нерасту ад браканьераў.**

Канец восені – час, калі ў Вілію і яе прытокі прыплывае нерасціцца кумжа і стронга. Астравеччына і Вілейшчына з'яўляюцца адзінымі раёнамі ў Беларусі, дзе адбываецца нераст гэтых ласасёвых рыб.

Для таго каб тут нерасціцца, рыба праплывае ад Балтыйскага мора каля 500 кіламетраў. Гэта адзін з самых доўгіх міграцыйных шляхоў рыб у свеце.

**У гэты час актывізуюцца браканьеры, якія ловяць рыбу і гэтым спыняюць нераст. Такім чынам і так рэдкая рыба не атрымлівае шанец на распаўсюджванне.**

Каб выратаваць рыбу ад знішчэння, валанцёры патрулявалі рэкі Тартак, Страча і Вілія, а таксама іх прытокі. Для гэтага яны хадзілі ўначы з ліхтарыкамі, каб адпудзіць браканьераў.

Сярод валанцёраў сёлета былі навучэнцы вілейскай школы-інтэрната разам з **Міхасём Петухам** і выхавальнікам школы-інтэрната **Іванам Кавалышавым**.

Падчас працы лагера абмяркоўвалася пытанне небяспекі Беларускай АЭС пад Астраўцом.

**Экалагі непакояцца, што АЭС можа спатрэбіцца зрабіць аварыйны зліў вады. Стронга і кумжа вельмі адчувальныя да перападаў тэмпературы. Калі вада ў рэках пацяплее, малькі не выжывуць.**

У такім выпадку праз некалькі год не будзе каму вяртацца ў Балтыку, і прыроднае кола перарвецца.

Працу лагера падтрымаў праект «Жывое партнёрства».

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**
**Фота аўтара.**



Валанцёры разбілі лагер, каб бараніць рэдкую рыбу ад браканьераў у час нерасту.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Масквіч-412, на хаду. Т. А1 (8-029) 3091788, МТС (8-029) 7705962.

• Сітраэн-Ксантыя, 1998 г.в., 1,8 бензін, у добрым стане. Т. (8-029) 7693556.*

• Аўтазапчасткі да аўтамабіля Форд-Сіера, хэтчбэк, 1986 г.в., 2,0 л. Т. (8-033) 3145631.

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто ў любым стане. Дорага. Т. (8-044) 5733095.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дом у в. Талуць Вілейскага раёна, ёсць лазня, хлеўчык, падвал. У дом падведзеная вада. Т. (8-029) 8638553.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы альбо абмяняю. Т. (8-01771) 28673, (8-029)2716012.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Тэрмінова! Т. (8-029) 2803704, (8-029) 2890719.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• 2-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Кутузава, 13, 50 кв.м, 2 паверх. Т. (8-029) 7299096.

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Будаўнічыя, рамонтныя і аддзелачныя работы. Прыватнае прадпрыемства «Будаўнічая кампанія Вілія» УНП 193435365 Т. (8-029) 3027185 (А1).*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Наносім фота на квартальны каляндар — 10 рублёў. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8 «НгС», УНП 690288442. Т. (8-029) 6631595.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт, устаноўка, наладка газавага абсталявання 4-га пакалення на ваш аўтамабіль. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• Свідраванне адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Прадам мабільны тэлефон Meizu M8c, у добрым стане, 100 руб. Т. (8-033) 3668181.*

**Музінструмент**

• Гітара. Т. (8-029) 5019550.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Дойная каза. Т. (8-029) 3597375.*

• Кабан свойскі. Т. (8-029) 8759065.*

• Козы маладыя агуленыя, казляняты на мяса. Нядорага. Т. (8-044) 7462476.*

• Парасяты в'етнамскія, 4,5 мес. Т. (8-025) 7726549.

• Парасяты дамашнія. Памагу з дастаўкай. Т. (8-029) 8753916.

• Распродаж парасят кармалаў. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.*

• Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8-025) 7894666.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Біблію на польскай мове. Т. (8-029) 5019550.*

• Свойскае малако. Много. Т. (8-029) 6162240.*

### АДДАМ

• Аддам дарма тумбу з люстэркам (трэльяж) карычневага колеру, паліраваная, б/у. Т. (8-029) 6458473.*

### ІНШАЕ

• Цэнтральная Рада партыі «Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада» паведамляе аб ліквідацыі пярвічнай арганізацыі «Крынічная» г. Маладзечна і несапраўднасці страчанага пасведчання аб пастаноўцы на ўлік пярвічнай арганізацыі «Крынічная» г. Маладзечна (пасведчанне аб пастаноўцы на ўлік №06-СП/247 выдадзенае ўпраўленнем юстыцы Мінаблвыканкама 13 ліпеня 2004 года.

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Будаўнічай арганізацыі ў Смаргоні патрабуюцца: аддзелачнікі (маляры, тынкоўшчыкі, abліцоўшчыкі), дахаўшчыкі (мяккі дах), рознарабочыя. Высокая заработная плата. УНП 691532954 Т. (8-025) 5129495.

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

• Прадавец на калгасны рынак. Прысутнасць санітарнай кніжкі абавязковая! Тэлефануйце! Т. (8-029) 5073888.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.

• Шукаю работу. (8-029)5019550.*

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Астравец | -01591, | Вілейка | -01771, |
| Ашмяны | -01593, | Маладзечна | -0176, |
| Валожын | -01772, | Мядзел | -01797, |
| | | Смаргонь | -01592. |




Заняткі па падатках можна глядзець з тэлефона.

# Якія паслугі аказвае інфармацыйна-выдавецкі цэнтр па падатках і зборах

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне інфармуе пра паслугі Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Інфармацыйна-выдавецкі цэнтр па падатках і зборах» у рамках указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 19 верасня 2017 года №338 «Аб падатковым кансультаванні».**

РУП «Інфармацыйна-выдавецкі цэнтр па падатках і зборах» (далей – прадпрыемства), заснавальнікам якога з'яўляецца Міністэрства па падатках і зборах, кансультуе па падатках у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 19 верасня 2017 года №338 «Аб падатковым кансультаванні».

Можна атрымаць кансультацыі па пытаннях падаткаабкладання, паслугі па запаўненні падатковых дэкларацый (разлікаў), паслугі па стварэнні электронных рахункаў-фактур для індывідуальных прадпрымальнікаў і фізічных асоб і іншыя. З падрабязнай інфармацыяй па аказанні паслуг можна азнаёміцца на інтэрнэт-сайце www.info-center.by альбо звярнуцца асабіста па адрасах:

– Мінск, праспект Машэрава, 7, кабінет 122 (будынак інспекцыі па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Цэнтральным раёне Мінска) тэлефоны: **(8 017) 269-18-65, 269-18-64**;

– Мінск, вуліца Сівых, 12, кабінет 104 (будынак інспекцыі па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Першамайскім раёне Мінска) тэлефон: **(8 017) 375-62-62**;

– Мінск, вуліца Фролікава, 9, кабінет 104 (будынак інспекцыі па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Партызанскім раёне Мінска), тэлефон: **(8 017) 392-02-56**.

Таксама прадпрыемства аказвае паслугі па аддаленым доступе да відэакурса «Анлайн школа «Аб падатках і не толькі для ІП простымі словамі» (далей – відэакурс). Відэакурс складаецца з дзевяці ўрокаў, згодна з зацверджанай праграмай. Гэтыя анлайн заняткі могуць быць карысныя як індывідуальным прадпрымальнікам, так і фізічным асобам, якія жадаюць зарэгістравацца ў якасці індывідуальных прадпрымальнікаў.

У ходзе ўрокаў разглядаюцца ўсе сістэмы падаткаабкладання, якія маюць права прымяняць індывідуальныя прадпрымальнікі, а таксама пытанні прыёму наяўных, неабходнасці афармлення першасных уліковых дакументаў, афармлення адносін з наёмнымі работнікамі і іншае.

На практычных прыкладах слухачы змогуць асвоіць парадак вядзення ўліку пры кожнай сістэме падаткаабкладання, запаўнення падатковых дэкларацый (разлікаў) і іншай справаздачнасці, якая падаецца індывідуальнымі прадпрымальнікамі, а таксама іншых дакументаў, звязаных з прадпрымальніцкай дзейнасцю.

У канцы кожнага ўрока слухачу даступныя тэсты для самакантролю. Гэта дзесяць пытанняў па тэме кожнага ўрока для замацавання пройдзенага матэрыялу.

З падрабязнай інфармацыяй па прапанове доступу да відэакурса можна азнаёміцца на інтэрнэт-сайце www.info-center.by, а таксама па тэлефонах: **(8 017) 2691864**, **2691865**.

Дадаткова паведамляем, што інфармацыю аб падпісцы на часопісы праз рэдакцыю РУП «Інфармацыйна-выдавецкі цэнтр па падатках і зборах» можна атрымаць па тэлефонах: **(8 017) 269-19-10**; **269-18-53**, кошт для аплаты – на сайце https: // info-center.by/.

Кошт падпіскі на 1-е паўгоддзе 2021:

– часопіс «Падаткі Беларусі»: друкаваная версія – 224,64 рублёў; электронная версія – 123,84 рублёў;

– часопіс «Кансультант прадпрымальніка»: друкаваная версія – 45 рублёў, электронная версія – 22,32 рублі

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне.**

## Інспекцыя па падатках і зборах: Прыйшоў час плаціць за зямлю

Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне нагадвае: 16 лістапада закончыўся тэрмін выплаты падатку на нерухомасць і зямельнага падатку (арэндный платы за зямлю) фізічнымі асобамі.

Добраахвотна не ўнесеныя ў бюджэт сумы падаткаў спаганяюцца ў прымусовым парадку з налічэннем пені за кожны каляндарны дзень пратэрміноўкі. За няплату або няпоўную плату падаткаў прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць. У выпадку няплаты падаткаў неабходна пагасіць запазычанасць у самыя кароткія тэрміны.

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Маладзечанскім раёне.**


Фота Настассі УТКІНАЙ і Аксаны ЯРАШОНАК. Калаж Ігара ПАЛЫНСКАГА.

Мітынгі прыхільнікаў розных палітычных поглядаў.

# «З-за розных палітычных поглядаў не размаўлялі з мамай два тыдні»

## Чытачы расказалі, якія канфлікты з блізкімі ў іх узнікаюць з-за палітыкі

**Сваркі з калегамі, непаразуменні з роднымі, нацягнутыя адносіны з сябрамі… Адны прагнуць перамен, іншыя падтрымліваюць дзейную ўладу і стабільнасць. Пасля сёлетняга жніўня адносіны палітычных апанентаў у грамадстве сталі куды больш вострымі, чым раней. Не абмінулі падобныя з'явы і нашых чытачоў, якія выступаюць за перамены. Герояў мы знайшлі праз наш тэлеграм-канал. Чытайце.**

МАЛАДЗЕЧНА
СМАРГОНЬ
ВІЛЕЙКА

### Дзмітры, работнік гандлю, Маладзечна: «Сваякі апраўдваюць гвалт»

«Трэба працаваць, а не баставаць!». «Б'юць, ну і няхай! А як яшчэ паступаюць з прастытуткамі і наркаманамі са зброяй у руках!». Так рэагуюць на сённяшнюю сітуацыю ў грамадстве сваякі маладзечанца **Дзмітрыя**.

Падобныя спрэчкі, па словах суразмоўцы, сталі ўзнікаць адразу пасля выбараў. Асноўная крыніца інфармацыі пра падзеі ў краіне ў апанентаў Дзмітрыя – дзяржаўнае тэлебачанне.

Цяпер мужчына проста стараецца не ўвязвацца ў спрэчкі з людзьмі, якія не прымаюць іншай думкі, акрамя іх уласнай. Але адзначае: прыпыняць адносіны з-за палітычных поглядаў не варта. Сваякоў не выбіраюць.

### Таццяна, работніца ЖКГ, Смаргонь: «Бацькі давяраюць толькі БТ»

– Мае бацькі, якім па 80 год, падтрымліваюць Лукашэнку. Давяраюць толькі дзяржаўнаму тэлебачанню. На працы ёсць настрої, што ўсё бессэнсоўна. Людзі асуджаюць пратэсты, хаця і Лукашэнку не падтрымліваюць.

Ёсць у маім асяроддзі людзі, якія лічаць, што ў гвалце і забойствах вінаватая Ціханоўская. Я імкнуся іх пераканаць. Тады адказваюць: «Палітыкай не цікаўлюся, ад мяне нічога не залежыць». Для іх галоўнае, каб звыклы парадак не мяняўся, – падзялілася Таццяна.

### Вольга, педагог, Маладзечна: «Свякроў кажа: «Хочаце, як ва Украіне?»

– Да выбараў мая мама плакала, калі чула нешта кепскае пра Лукашэнку. Казала «Чалавек усё жыццё працаваў, стараўся, а пра яго цяпер так дрэнна гавораць». Але мы яе пераканалі, што трэба галасаваць за Ціханоўскую, – пачынае гаворку маладзечанка **Вольга**.

Мама падтрымала дзяцей. Сказала: «Вы маладыя, лепш ведаеце. А мне ўжо ўсё роўна». Пасля выбараў мама Вольгі жахнулася таму, што адбылося, памяняла сваю думку пра дзейнага Прэзідэнта. Цяпер яна не спрачаецца з дачкой.

Бацька Вольгі галасаваў супраць усіх. Цяпер, калі чуе размовы пра палітыку, паўтарае: «От даскачацеся. Будзе вам свабода! Ці не ўсё роўна, на якога пана спіну гнуць. Вы цяпер рызыкуеце, а яны прыйдуць да ўлады і будуць вяршкі здымаць».

– Са свёкрам і свякроўю куды больш складана, – дзеліцца жанчына. – Яны старэйшыя за маіх бацькоў, абое з вышэйшай адукацыяй. Маіх поглядаў адносна перамен яны не раздзяляюць і цяпер. Свёкар прыехаў з Расіі, калі яму было ўжо больш за 30. Таму ён за саюз з Расіяй, слухае Салаўёва. За каго галасаваў, не ведаю.

А вось свякроў увогуле не разумее, што нам не падабаецца. Кажа: «У нас усюды парадак, прыгажосць, мы так хораша ніколі не жылі. Вы хочаце, як ва Украіне?». Карацей, паўтарае фразы, якія чуе на БТ. Пераканаць яе немагчыма. Верыць толькі тэлебачанню.

Сама мая суразмоўца, Вольга, працуе ў адной з маладзечанскіх школ. Кажа, за дзейную ўладу ў іх у школе працэнтаў дзесяць. Асабліва маюць пра перамены тыя супрацоўнікі, дзеці якіх жывуць у Еўропе.

### Вольга, прадавец, Маладзечна: «Мама баіцца невядомасці»

– Спрэчкі пра палітыку ўзніклі з мамай яшчэ да выбараў. Маме – 60 год, яна пенсіянерка, – расказвае сваю гісторыю Вольга з Маладзечна.

Жанчына адзначае, што заўсёды цешыцца з навін пра рух да перамен і ўзрушаецца фактам парушэння правоў чалавека. Мама, чуючы гэта, пачынае апраўдваць цяперашнюю ўладу. Так узнікае спрэчка.

Хаця, адзначае Вольга, інфармацыі ў мамы дастаткова. Яна не толькі глядзіць тэлебачанне, а яшчэ праглядае інтэрнэт.

– Пра тое, што адбываецца гвалт і затрыманні, мама, увогуле, слухаць не хоча. Спачатку мы вельмі сварыліся з-за палітыкі. А аднойчы нават зусім прыпынілі зносіны на два тыдні. Пасля проста прынялі факт, што ў нас розныя пазіцыі. Стараемся не размаўляць на палітычныя тэмы. Атрымліваецца з цяжкасцю. Лічу, што не варта спыняць сваяцкія адносіны з-за палітыкі. Прыйдзе час, усё стане на свае месцы.

А яшчэ Вольга адзначае, што нядаўна зразумела прычыну сваіх спрэчак з мамай. На яе думку, справа ў тым, што мама добра памятае, як няпроста было пасля развалу СССР:

– Цяпер 26 год ва ўладзе адзін чалавек. Мама баіцца, што пры новай уладзе застанецца без пенсіі, страціць працу, што зноў будзе цяжка. Яе проста страшыць невядомасць.

### Ксенія, педагог, Вілейка: «З бацькамі аднолькавыя погляды, з сяброўкай – не!»

– З бацькамі, хоць яны ўжо і ва ўзросце, праблем у адносінах няма. У нас аднолькавыя палітычныя погляды. Так было заўсёды, – кажа жыхарка Вілейшчыны Ксенія.

Але ў жанчыны ёсць сяброўка, з якой з-за палітыкі адносіны апошнім часам нацягнутыя.

– Мы сябруем сем'ямі больш за дзесяць год. Віншуем адна адну са святамі, часам можам пасядзець за кавай. Калі здараецца ў сем'ях нейкія складанасці, таксама стараемся дапамагчы. Размоў пра палітыку да жніўня ў нас неяк і не ўзнікала. А тут пачалося! Як аказалася, сяброўка падтрымлівае дзейную ўладу.

> **Кажа, што людзі, якіх збіваюць, самі вінаватыя ў гэтым. І што я, калі іх апраўдваю, не ведаю ўсіх абставін. А якія трэба ведаць абставіны, калі я бачу, як здаровы мужчына-міліцыянер б'е дзяўчыну?**

Па словах Ксеніі, ёй не хацелася б разрываць кантакты з сяброўкай. Усё ж яны даўно разам. Але заўважае, што адносіны сталі больш прахалоднымі. І размоў пра палітыку стараюцца пазбягаць і яна, і сяброўка.

Шаноўныя чытачы! Калі ў вас у апошнія месяцы ўзнікалі канфлікты з сябрамі і роднымі з-за розных палітычных поглядаў і вы гатовыя расказаць свае гісторыі, звяжыцеся з намі. Запрашаем адгукнуцца і тых, хто супраць дзейнай улады, і тых, хто падтрымлівае яе.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



# тэлетыдзень

**7-13 снежня**

Перадрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# The New York Times склала спіс лепшых акцёраў XXI стагоддзя

**The New York Times апублікавала спіс галоўных акцёраў XXI стагоддзя. Усяго ў спісе 25 імёнаў, якія выбралі кінакрытыкі газеты.**



Фота rustars.tv.

Дэнзэл Вашынгтон заняў першае месца.

– Гэты спіс дакладна суб'ектыўны і, верагодна, скандальны, – гаворыцца ў падводцы да матэрыялу.

Першы радок заняў **Дэнзэл Вашынгтон**. Вось што пра яго піша кінакрытык Скот:

– Ён па-за канкурэнцыяй. Тытан экрана і ў той жа час тонкі і чулы майстар з сур'ёзнай сцэнічнай падрыхтоўкай старой школы, яркай харызмай кіназоркі. Яму пад сілу Шэкспір і Аўгуст Уілсан, ролі зладзеяў і гераічных людзей. А яшчэ ён бліскуча іграе звычайных хлопцаў.

Тройку лідараў замыкаюць **Дэніэл Дэй-Льюіс**, адзіны акцёр з трыма «Оскарамі» за галоўную мужчынскую ролю, і французская актрыса **Ізабэль Юпэр**.

**Чацвертае месца дасталася Кіану Рыўзу.**

– Спытаеце сябе: вас калі-небудзь расчароўвала яго з'яўленне ў кіно? Можаце ўспомніць хоць адзін фільм, які не стаў лепшым ад яго ўдзелу? Мы гаворым пра Тэда Логана, Неа, Джона Уіка, – аргументуе свой выбар Скот.



Кінакрытыкі адзначаюць, што Ніколь Кідман, якой дасталася пятае месца, заўсёды была працавітай актрысай, нягледзячы на непастаянную папулярнасць яе праектаў:

– Некалькі гадоў яе фільмы выходзілі амаль незаўважна. Тым не менш Кідман працягвала працаваць, выцягваючы слабы матэрыял. Яна прымушала сябе працаваць, нават калі фільмы не каштавалі яе намаганняў.

**У топ трапілі не толькі амерыканскія акцёры. У ім таксама ёсць зоркі карэйскага кіно Сон Кан-хо і Кім Мін-хі, кітаянка Чжао Тао, італьянец Тоні Сервіла і яшчэ адна францужанка Катрын Дэнёў.**

Спіс замыкаюць **Махершала Алі**, **Соня Брага** і **Гаэль Гарсія Берналь**. Кінакрытыкі адзначаюць выразную знешнасць Алі, які ў 2010-я атрымаў два «Оскары»:

– У яго адзін з найвялікшых твараў у сучасным кіно: гэтыя скульптурныя скулы, гэтыя высокія бровы, гэтыя вочы, у якіх чытаецца меланхолія.

**Цалкам топ The New York Times выглядае так:**

25. Гаэль Гарсія Берналь
24. Соня Брага
23. Махершала Алі
22. Меліса Макарці
21. Катрын Дэнёў
20. Роб Морган
19. Уэс Стьюдзі
18. Уілам Дэфо
17. Элфры Вудард
16. Кім Мін-хі
15. Майкл Б. Джордан
14. Оскар Айзэк
13. Тыльда Суінтан
12. Хаакін Фенікс
11. Джуліана Мур
10. Сірша Ронан
9. Віёла Дэвіс
8. Чжао Тао
7. Тоні Сервіло
6. Сон Кан-хо
5. Ніколь Кідман
4. Кіану Рыўз
3. Дэніэл Дэй-Льюіс
2. Ізабэль Юпэр
1. Дэнзэл Вашынгтон

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 7 ДЕКАБРЯ

**7.00, 16.00, 18.15, 21.05, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.10** «Мульт-парад». «Скуби Ду».
**7.30, 16.05, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 20.05** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.50** Мультфильмы «Аисты».
**11.15** Т/с **«ЗАБЫТЫЙ».**
**13.00** Х/ф **«МГЛА».**
**15.05, 18.20** Т/с **«КОРОЛЕВСТВО».**
**16.45** Т/с **«СЕМЕЙНАЯ САГА».**
**19.15** «Суперлото».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**
**23.15** Х/ф **«ТРИ БИЛБОРДА НА ГРАНИЦЕ».**

### ВТОРНИК, 8 ДЕКАБРЯ

**7.00, 15.55, 18.25, 21.05, 1.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад». «Скуби Ду».
**7.30, 16.00, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**9.00, 19.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.45** Д/ф.
**10.10** Мультфильмы «Том и Джерри. Квест».
**11.25, 16.50** Т/с **«СЕМЕЙНАЯ САГА».**
**12.55** Х/ф **«АДМИРАЛ».**
**15.00, 18.35** Т/с **«КОРОЛЕВСТВО».**
**16.30** «Дети о еде».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ОСОБОЕ МНЕНИЕ».**
**23.35** Х/ф **«НЕ МОЕ СОБАЧЬЕ ДЕЛО».**

### СРЕДА, 9 ДЕКАБРЯ

**7.00, 16.20, 18.35, 21.10, 1.25** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.30** «Мульт-парад». «Скуби Ду».
**7.30, 16.25, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 20.05** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.50** СБ ТВ «Удачные советы».
**10.00** «Дети о еде –3».
**10.25** Мультфильмы «Иван царевич и серый волк».
**11.35** Т/с **«ОФИЦЕРСКИЕ ЖЕНЫ».**
**13.10** Х/ф **«ОСОБОЕ МНЕНИЕ».**
**15.35, 18.40** Т/с **«КОРОЛЕВСТВО».**
**17.00** Т/с **«СЕМЕЙНАЯ САГА».**
**19.35** Д/ф «МОЯ ЖЕНА КУКЛА».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ФРАНЦУЗ».**
**23.25** Х/ф **«ДЖОКЕР».**

### ЧЕТВЕРГ, 10 ДЕКАБРЯ

**7.00, 16.00, 21.10, 0.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.10** «Мульт-парад». «Скуби Ду».
**7.30, 16.05, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.15, 19.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.00** Д/ф «ИТИГЭЛОВ. СМЕРТИ НЕТ».
**9.45** Мультфильмы «Моана».
**11.30, 16.45** Т/с **«СЕМЕЙНАЯ САГА».**
**13.00** Х/ф **«ФРАНЦУЗ».**
**15.10, 18.30** Т/с **«КОРОЛЕВСТВО».**
**18.15** «Фешн is my профешн».
**19.15** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ИСПОЛНИТЕЛЬ».**

### ПЯТНИЦА, 11 ДЕКАБРЯ

**7.00, 15.50, 21.10, 1.40** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад». «Скуби Ду».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.50** Д/ф «НЕВЕРОЯТНАЯ АРКТИКА».
**10.30, 16.30** Т/с **«СЕМЕЙНАЯ САГА».**
**12.05** Х/ф **«ИСПОЛНИТЕЛЬ ЖЕЛАНИЙ».**
**15.10, 18.05** Т/с **«КОРОЛЕВСТВО».**
**19.00** «Погода».
**19.05** Х/ф **«ГОЛДФИНГЕР».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ФАНТАСТИЧЕСКИЕ ТВАРИ И ГДЕ ОНИ ОБИТАЮТ».**
**23.15** Х/ф **«ФАНТАСТИЧЕСКИЕ ТВАРИ. ПРЕСТУПЛЕНИЕ».**

### СУББОТА, 12 ДЕКАБРЯ

**7.00, 19.00, 21.10, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «История игрушек».
**8.45** «Приколы 13-й школы».
**8.50** Х/ф **«ЗДРАВСТВУЙТЕ, Я ВАША ТЕТЯ».**
**10.30** «Дети о еде».
**11.00** Х/ф **«МУРКА».**
**16.15** «Погода».
**16.20** «Смотрим всей семьей»: «Красавица и чудовище».
**18.30** «Бьюти День».
**19.05** Х/ф **«МОЙ СОЗДАТЕЛЬ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my профешн».
**21.15** Х/ф **«ТРИ МЕТРА НАД УРОВНЕМ НЕБА».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 13 ДЕКАБРЯ

**7.00, 15.40, 18.25, 21.05, 0.45** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Иван царевич и серый волк».
**8.30** «Приколы 13-й школы».
**8.35** Х/ф **«ПОЛОСАТЫЙ РЕЙС».**
**10.00** «Бьюти День-3».
**10.30** Х/ф **«МУРКА».**
**15.45** «Мульт-парад».
**16.55** Х/ф **«ПСЫ ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**
**18.30** Т/с **«КАСЛ».**
**19.15** «Погода».
**19.20** Х/ф **«ПОЛНОЧЬ В ПАРИЖЕ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПЕЛЕ. РОЖДЕНИЕ ЛЕГЕНДЫ».**
**22.55** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «ШАРОВАЯ МОЛНИЯ».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 7 ДЕКАБРЯ

**6.30** Х/ф **«2+1».**
**8.25** Х/ф **«ЗДРАВСТВУЙ ПАПА, НОВЫЙ ГОД».**
**10.00** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**11.25, 12.40, 22.15** Мажорный лад.
**12.00, 19.15** Будьте здоровы.
**12.30** Мая Радзіма.
**15.10** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ НА ДАЛЬНИХ БЕРЕГАХ».**
**16.25** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ».**
**17.40** Х/ф **«О ЧЕМ МОЛЧАТ ДЕВУШКИ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.45** Мнения и факты.
**20.15** Х/ф **«НА КРЮЧКЕ!».**

### ВТОРНИК, 8 ДЕКАБРЯ

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«РОБИН ГУД».**
**10.50** Х/ф **«СУПЕРГЕРОЙСКОЕ КИНО».**
**12.10** Х/ф **«ПРОСТИ, ХОЧУ НА ТЕБЕ ЖЕНИТЬСЯ».**
**14.00** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**15.15** Х/ф **«С ЛЮБОВЬЮ РОЗИ».**
**17.00** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**18.50** Мая Радзіма.
**19.15** Все обо всем.
**20.15** Х/ф **«РИМСКИЕ СВИДАНИЯ».**
**22.15** Мажорный лад.

### СРЕДА, 9 ДЕКАБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 20.15** Мая Радзіма.
**8.15** Родная старонка.
**8.30** Х/ф **«АЛЕША ПОПОВИЧ И ТУГАРИН ЗМЕЙ».**
**9.50** Х/ф **«ДОБРЫНЯ НИКИТИЧ И ЗМЕЙ ГОРЫНЫЧ».**
**11.00** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**12.30** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**14.25** Х/ф **«МЕРИ ПОППИНС ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**16.35** Х/ф **«ТРИ БОГАТЫРЯ И МОРСКОЙ ЦАРЬ».**
**17.50** Будьте здоровы.
**19.15** Рядом со звездами.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 10 ДЕКАБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**6.50, 19.15** Мая Радзіма.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 22.15** Мажорный лад.
**8.15** Х/ф **«ВСЁ ИЛИ НИЧЕГО».**
**10.45** Х/ф **«ЗАМУЖ НА 2 ДНЯ».**
**12.30** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА».**
**14.25** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**15.50** Х/ф **«КЛИК: С ПУЛЬТОМ ПО ЖИЗНИ».**
**17.40** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА».**
**19.25** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«ВСЁ ПУТЁМ».**

### ПЯТНИЦА, 11 ДЕКАБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая Радзіма.
**8.15** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**9.55** Х/ф **«ЗАЧИНЩИКИ».**
**10.30** Х/ф **«ДРУГ НЕВЕСТЫ».**
**12.10** Х/ф **«ИНСТРУКЦИИ НЕ ПРИЛАГАЮТСЯ».**
**15.10** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ: ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**
**17.10** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**19.20** Рядом со звездами.
**20.20** Мнения и факты.
**22.20** Мажорный лад.

### СУББОТА, 12 ДЕКАБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.20** Рядом со звездами.
**8.20** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**9.50** Х/ф **«ПЯТЫЙ ЭЛЕМЕНТ».**
**11.55** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**13.35** Х/ф **«СЕМЬЯ ПО-БЫСТРОМУ».**
**15.30** Х/ф **«УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ».**
**17.05** Х/ф **«2+1».**
**19.20** Будьте здоровы.
**20.20** Мая радзіма.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.20** Мажорный лад.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 13 ДЕКАБРЯ

**6.30** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**8.10** Х/ф **«КАК УКРАСТЬ БРИЛЛИАНТ».**
**9.45** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРРО».**
**11.55** Х/ф **«ИЛЬЯ МУРОМЕЦ И СОЛОВЕЙ РАЗБОЙНИК».**
**13.15** Х/ф **«ЛЮБОВЬ БЕЗ ПЕРЕСАДОК».**
**14.50** Х/ф **«ИГРА В 4 РУКИ».**
**16.40** Х/ф **«ПОВЕЛИТЕЛИ СНОВ».**
**18.00** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИЦЫ: НОВЫЙ ПОВОРОТ».**
**19.15** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА».**
**21.50** Х/ф **«ВСЁ О МУЖЧИНАХ».**

## Беларусь 1

**6.05** Слово Митрополита Вениамина на День памяти Апостола Андрея Первозванного.

**6.15, 22.05** Х/ф **«СЧАСТЬЕ ИЗ ОСКОЛКОВ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.15** «Зона Х». Итоги недели.

**10.50** Х/ф **«УКРОЩЕНИЕ СВЕКРОВИ».**

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ОДНАЖДЫ ПРЕСТУПИВ ЧЕРТУ».**

**14.25** Маршрут построен.

**15.15** Дай пять.

**15.30** Вокруг планеты.

**16.15** Один день.

**16.40, 19.10** Х/ф **«ВИРАЖИ СУДЬБЫ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.40** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**9.45** Т/с **«СТИЧ!».**

**10.35** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.

**11.40** Х/ф **«КНИГА ДЖУНГЛЕЙ».**

**13.20, 23.55** «Короли палат». Скетчком.

**13.50** «Папа попал». Реалити-шоу.

**15.30** «Меняю жену». Реалити-шоу.

**17.05** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.55** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.10** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«МОЙ ДРУГ ДЕД МОРОЗ».**

**22.50** «Развод и девичья фамилия». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.40** Навіны культуры.

**8.20** «Крошка Енот». Мультфільм.

**8.30** «Зайчык». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Запяканка з рыбы.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Дзяўчына без адрасу». Мастацкі фільм.

**13.20** «Народны майстар». Валерый Мінкоў (разьбярства).

**13.45** «Спявае Беларусь». Фалькложнае песеннае шоу. Народны ансамбль народнай песні «Пасаг» (п.Зялёны бор, Смалявіцкі раён, Мінская вобласць).

**15.00** «Ад усяе душы». Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь. Дырыжор –Юрый Караваеў.

**15.50** «Контрудар». Мастацкі фільм [СТ].

**17.15** «Архітэктура Беларусі» [СТ].

**17.30** «Дыскатэка СССР». Канцэрт «Мы бродячие артисты».

**18.30** «Дамы запрашаюць кавалераў» Мастацкі фільм [СТ].

**19.50** «Кадры жыцця». Оперная спявачка, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Людміла Колас.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Шэрлак Холмс і доктар Ватсан». Шматсерыйны мастацкі фільм [СТ].

**23.30** «Жывая спадчына». Бортніцтва ў Беларусі. Лельчыцкі раён.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.15** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.15** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.35** ОНТ представляет: «Народный повар».

**10.50** Х/ф **«ВЕСНА НА ЗАРЕЧНОЙ УЛИЦЕ».**

**12.35** «Видели видео?».

**14.55** К 70-летию Людмилы Сенчиной. «Хоть поверьте, хоть проверьте».

**16.20** Х/ф **«В БОЙ ИДУТ ОДНИ «СТАРИКИ».**

**18.20** Шоу Максима Галкина «Лучше всех!». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** «Что? Где? Когда?». Зимняя серия игр.

**22.35** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**22.55** Х/ф **«ЛЮБОВЬ НА ДВА ПОЛЮСА».**

## СТВ

**6.35, 0.25** «Странное дело».

**8.15** «Великие тайны».

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** Документальный проект.

**12.25, 13.40, 16.40** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ МИНУТА».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.05** Документальный спецпроект.

**23.00** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Мультфильмы.

**7.15** Х/ф **«КРЕПКИЙ ОРЕШЕК».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви».

**9.25** «ФазендаЛайф». Кабинет «Мемфис для бабушки».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**2.10** Х/ф **«БОЛЬШАЯ ПЕРЕМЕНА».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** Элементариум.

**6.45** Беларусы.

**7.20** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.50** «Города Беларуси».

**9.20** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Первая передача».

**10.50** «Чудо техники».

**11.35** «Дачный ответ».

**12.35** Истории спасения.

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.00** Х/ф **«ПОЦЕЛУЙ СОКРАТА». ФИЛЬМ «ЧИСТЫЙ ЛЕД».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.30** Ты не поверишь!

**22.30** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Специальный репортаж».

**7.25** Х/ф **«КРОВНАЯ МЕСТЬ».**

**11.00** ВЕСТИ.

**11.10** Х/ф **«СМЯГЧАЮЩИЕ ОБСТОЯТЕЛЬСТВА».**

**14.40** Х/ф **«ДОРОГАЯ ПОДРУГА».**

**18.15** ПРЕМЬЕРА. «Всероссийский открытый телевизионный конкурс юных талантов «Синяя Птица».

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.05** «В людях».

**21.50** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».

**22.50** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.20** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**5.00, 15.30** Волшебная страна. **6.35** Однажды в Америке. **10.35** Тайное окно. **12.15** Области тьмы. **14.05** Красная Шапка против зла. **17.20** Спайдервик: Хроники. **19.00** Васаби. **20.40** Не говори ни слова. **22.50** И пришёл паук. **0.35** Каратэ-пацан. **2.50** Остров проклятых.

### TV1000 ACTION

**5.10** Лукас. **6.50** Закатать в асфальт. **9.35** Галвестон. **11.05** Криминальное чтиво. **13.40** Каратель. **15.45** Из Парижа с любовью. **17.20** Защитник. **19.00** Механик: Воскрешение. **20.40** Джон Уик 3. **22.50** Репродукция. **0.30** Неудержимый. **1.55** Неудержимые. **3.30** Неудержимые 2.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** Ехали два шофёра. **6.50** Тени забытых предков. **8.30** ЖАRА. **10.15** Стиляги. **12.40** Любовь в большом городе. **14.10** Любовь в большом городе 2. **15.55** Любовь в большом городе 3. **17.20** Робо. **19.00** Успех. **20.50** Дорогой папа. **22.25** Переводчик. **23.35** Околофутбола. **1.15** Край. **3.15** 9 рота.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.15** «Новый день». **10.45** Х/ф **«ЗАКОЛДОВАННАЯ ЭЛЛА». 12.45** Х/ф **«КРАСАВИЦА И ЧУДОВИЩЕ». 15.00** Х/ф **«ВИНЧЕСТЕР: ДОМ, КОТОРЫЙ ПОСТРОИЛИ ПРИЗРАКИ». 17.00** Х/ф **«ВРЕМЯ ВЕДЬМ». 19.00** Х/ф **«ПРЕЗИДЕНТ ЛИНКОЛЬН: ОХОТНИК НА ВАМПИРОВ». 21.00** Х/ф **«ОТ ЗАКАТА ДО РАССВЕТА». 23.15** Х/ф **«ДОЧЬ КОЛДУНЬИ: ДАР ЗМЕИ». 1.30** Х/ф **«ПРИНЦ ВЭЛИАНТ». 3.00, 3.45, 4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«СУЧЬЯ ВОЙНА». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«АДМИРАЛ». 13.00, 5.00** Х/ф **«ЛЮБОВЬ ПОД ПРИКРЫТИЕМ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ПОСЛЕДНЯЯ РЕПРОДУКЦИЯ». 21.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ ПОД ПРИКРЫТИЕМ». 0.00, 1.00** Т/с **«ДВЕ СУДЬБЫ». 2.00, 3.00** Т/с **«ОСТРОВ НЕНУЖНЫХ ЛЮДЕЙ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.50** Х/ф **«ПЛЕЙБОЙ ПОД ПРИКРЫТИЕМ». 2.45** Х/ф **«ЛЕТО. ОДНОКЛАССНИКИ. ЛЮБОВЬ». 4.30** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА». 6.15** Х/ф **«ДРУЖБА И НИКАКОГО СЕКСА?». 8.10** Х/ф **«ГОСПОЖА ГОРНИЧНАЯ». 10.10** Х/ф **«ОДНАЖДЫ ПРЕСТУПИВ ЗАКОН». 12.00** Х/ф **«НЯНЬКА ПО ВЫЗОВУ». 13.50** Х/ф **«ЧУМОВЫЕ БОТЫ». 15.45** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ». 17.30** Х/ф **«ДЖУНГЛИ ЗОВУТ! В ПОИСКАХ МАРСУПИЛАМИ». 19.30** Х/ф **«ПАПА-ДОСВИДОС». 21.40** Х/ф **«КОРСИКАНЕЦ». 23.30** Х/ф **«МАРТОВСКИЕ КОТЫ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.25, 1.25, 2.40** Т/с **«ШЕФЫ». 4.20, 5.15, 6.15** Т/с **«МАММОН». 7.30, 8.30, 9.35, 10.35, 11.40, 12.45, 13.45, 14.45, 15.50, 16.45** Т/с **«ПАЛАЧ». 17.45** Т/с **«ШЕРЛОК: БОЛЬШАЯ ИГРА». 19.35** Т/с **«ШЕРЛОК: СКАНДАЛ В БЕЛГРАВИИ». 21.30, 22.25, 23.20** Т/с **«ЛЕГЕНДЫ О КРУГЕ».**

### ВТВ

**6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.35** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **12.05** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.50** Х/ф **«РЕАЛЬНАЯ БЕЛКА 2». 14.35, 0.05** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **16.00** Х/ф **«СЕМЬ ЖИЗНЕЙ». 18.20** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК 2». 21.00** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **22.05** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **23.05** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **1.00** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **1.55** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00, 0.10** Гандбол. Чемпионат Европы. Женщины. Второй групповой раунд. **8.30** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Эстафета. Женщины. **9.45** Футбол. Лига Европы УЕФА. 6-й тур. Обзор. **10.40** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Гонка преследования. Мужчины. **11.25** Волейбол. Кубок Беларуси. Мужчины. Финал. **13.35** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Гонка преследования. Женщины. **14.30** Игры «на вырост». **15.00** Пит-стоп. **15.30** Вот это спорт! **15.50** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Эстафета. Мужчины. **17.10** Спорт-центр. **19.25** Футбол. Чемпионат Англии. Фулхэм –Ливерпуль. В перерыве Спорт-центр. **21.20** Итоги недели. **22.05** Футбол. Чемпионат Англии. Арсенал –Бернли. В перерыве Спорт-центр.

### EUROSPORT

**1.35, 17.20, 17.50** Прыжки на лыжах с трамплина. Чемпионат мира по полётам. HS 240. **3.00** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Мужчины. Гонка преследования. **3.30, 8.00** Горные лыжи. Кубок мира. Валь д'Изер. Мужчины. Скоростной спуск. **4.30, 7.30, 10.30, 14.00** Горные лыжи. Кубок мира. Куршевель. Женщины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **5.00, 9.00** Снукер. Scottish Open. 1/2 финала. **7.00, 11.20** Горные лыжи. Кубок мира. Куршевель. Женщины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **12.25** Горные лыжи. Кубок мира. Валь д'Изер. Мужчины. Супергигант. Прямая трансляция. **15.30** Биатлон. Кубок мира. Хохфильцен. Мужчины. Эстафета. **19.45** Лыжные гонки. Кубок мира. Давос. Мужчины. Свободный стиль. 15 км. **20.30** Санный спорт. Кубок мира. Оберхоф. Женщины. 2-я попытка. **21.05, 21.45** Снукер. Scottish Open. Финал.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Школа внедорожного вождения. **6.30, 16.50** Металлоломщики. **7.20, 18.00** Советы юриста. **8.00, 10.30, 13.00, 16.30, 17.40, 23.05, 1.15, 3.40** Итоговые новости. **8.15** Теория полного привода. **8.50** Сравнительный тест. **9.25** Комплектация. **9.55, 10.45** Все включено. **10.15, 18.45, 5.45** Вторичка. **11.00, 19.30, 22.25, 3.05** Работяги. **11.20, 19.50, 22.45, 3.25** Проверка на дороге. **11.40, 20.10, 23.25, 3.55** Стальные парни. **12.30, 13.20, 0.15** Испытание на прочность. **13.50, 1.30** Тест на «Драйве». **14.55** Эконом-тест. **15.15** Гаражная команда. **16.05, 22.00** Авто: вторые руки. **16.20, 19.20, 22.20** Наезд! **20.55, 4.50** Поездка выходного дня. **21.30, 5.20** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **2.35** Сити тестер. **4.40** Обновление.

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.40, 8.30, 9.20** Речные чудовища. **10.15, 11.00, 11.50, 12.35, 13.25, 14.10, 15.00, 15.45, 16.35, 17.20, 18.10, 18.55, 19.40, 20.30** Австралийские золотоискатели. **21.15, 21.40, 22.05, 22.30, 22.55, 23.20, 23.45, 0.10, 0.35, 1.00, 1.25** Нефритовая лихорадка. **1.50, 2.20, 2.55, 3.25, 4.00, 4.30, 5.00, 5.35** Австралийские ловцы быков.

### HISTORY

**6.10** Родовые проклятья. **6.35, 17.15** Расшифрованные сокровища. **7.25, 3.15, 4.05** Музейные тайны. **8.15, 9.05** По следам вождя гуннов Аттилы. **9.55, 10.50, 11.50** Нил: величайшая из рек. **12.45** Новые тайны терракотовых воинов. **13.45, 14.40, 15.30, 16.25** 5000 лет истории Нила. **18.10, 23.40, 0.30** Расшифровка тайн. **18.55** Древние небеса. **19.55** Тайны мертвых. **21.00** Тайная история рыцарей Храма. **21.55** Титаник: истории из глубины. **22.50** Запретная история. **1.15** Загадки Египта. **2.10** История христианства. **4.50, 5.20** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.05, 4.15** Уличный ветеринар. **6.30** В поисках русского тигра. **7.25** Гиамо –царица гор. **8.20** В поисках Султана. **9.15** Дикий штат Карнатака, Индия. **10.10** Дикая Шри-Ланка: царство леопардов. **10.55** Дикий Токио. **11.50, 12.45, 13.40, 14.30** Эпический Йеллоустоун. **15.25, 16.20, 17.15, 18.10** Дикая Канада II. **19.10** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **20.00, 20.50** Загадочная планета. **21.40** Вскрытие мамонта. **22.35, 23.25** Выживание в дикой природе. **0.15** Невероятные встречи с животными. **1.05** Хищные питомцы. **1.50, 5.10** Мутации погоды. **2.40** Анатомия крупнейших животных. **3.30** Ветеринар из Йоркшира. **4.45** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.20** Сделать за один день. **6.40, 2.00, 2.50** Авто-SOS. **7.30** 80-е. **8.20** Панорама 360 градусов: Разрушение объектов всемирного наследия. **9.10, 10.00** Машины: Разобрать и продать. **10.50, 11.40** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **12.35** Внутри невероятной механики. **13.25** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **14.15** Расследование авиакатастроф. **15.05, 15.55** Чудеса инженерии. **16.50** Невероятные машины. **17.35** Скрытые жемчужины Турции. **18.30** Сокровища Тутанхамона. **19.20** Секретные материалы древности. **20.10** Кровавые тайны Европы. **21.00** Атлас проклятых мест. **21.50** Реальность или фантастика? Сезон 3. **22.45** Япония: между небом и землей. **23.35, 0.25** Прорыв. **1.10** Осушить океан. **3.35** Национальные парки Америки. **4.25, 5.15** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.05, 14.10, 18.00, 22.05, 2.10** Экспедиции Андрея Старкова. **6.30, 10.35, 15.55, 22.35, 2.40** Профессиональная рыболовная лига. **7.00, 11.05, 23.05, 3.10** Мой мир – рыбалка. **7.30, 15.25, 23.35** Вкусные рецепты рыболова. **8.00, 12.05, 16.15, 19.50, 0.05, 4.05** Рыбалка 360. **8.30, 12.35, 16.40, 20.20, 0.35, 4.30** Давай зарубимся! **8.45, 12.50, 0.50, 4.45** Популярная охота. **9.00, 13.05, 17.00, 1.05, 5.05** Рыбалка без границ. **9.35, 13.35, 17.30, 21.35, 1.40, 5.35** Мир рыболова. **11.35, 3.35** Вкусные рецепты охотника. **14.35, 18.30** Люди дикого севера. **19.20** Безграничная рыбалка. **20.35** Охота в Новом Свете. **21.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.05, 18.00, 22.00, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 10.35, 14.35, 18.30, 22.25, 2.40** Чай вдвоем. **6.45, 10.55, 14.50, 18.50, 22.45, 2.55** Флористика. **7.00** Огород круглый год. **7.30, 11.40, 15.40, 19.35, 23.35, 3.55** Усадьбы будущего. **8.00, 12.15, 16.10, 20.10, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.30, 0.25** Свечной заводик. **8.35, 12.45, 16.45, 20.40, 0.40, 4.50** С пылу с жару. **8.50, 17.00, 20.55, 0.55, 5.05** Чудеса, диковины и сокровища. **9.20, 3.40** Травовед. **9.40, 13.35, 17.30, 21.30, 1.25, 5.35** Моя крепость. **11.10, 15.10, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **13.00** Огород круглый год. **16.30, 20.25, 4.35** Инструменты. **1.55** Наш румяный каравай.

# Прадавец, спалены з кіёскам, і выпускныя ў рэстаранах

## Чым адзначыліся мінулыя гады Быка

МАЛАДЗЕЧНА

**Сімвалам надыходзячага года стане Бык. Якія падзеі ў Маладзечна прыносіла гэта жывёліна ў мінулыя свае гады, прапануем даведацца з нашага матэрыялу.**




Так выглядаў аўтавакзал да рэстаўрацыі, што завяршылі ў 2009 годзе. Выява старога будынка засталася на фотаздымку Макядонскага. Фота ўвайшло ў набор паштовак пра Маладзечна.

### 1937

На Бутаўскім полі ў Маскоўскай вобласці расстраляны ўраджэнец Лебедзева (1900 год нараджэння), мастак, скульптар **Раман Семашкевіч**. Быў адным з 16 дзяцей панскага садавода. Вучыўся ў Маскве, там стаў прызнаным мастаком. Абвінавачаны ў антысавецкай агітацыі і шпіянажы на карысць Польшчы і расстраляны.

У горадзе працуе польская гімназія імя Тамаша Зана, адчыненая ў 1922 годзе. У 1937 годзе тут вучыцца каля двухсот чалавек. Прозвішча дырэктара – **Люро**. Сярод найбольш паважаных настаўнікаў – **Анцулевіч** па прыродазнаўстве, **Кавалюк** па геаграфіі і фізкультуры, **Бачэўская** па французскай мове, **Плякова** – па латыні, **Бароўскі** па паланістыцы, ксёндз **Чаплінскі**, што выкладаў не толькі каталіцкую рэлігію, але і нямецкую мовы, і бацюшка **Марозаў**.

### 1949

У раёне пачынаецца масавая калектывізацыя.

У горадзе ўзвялі новы будынак СШ №2. З драўлянай хаты вучні і настаўнікі пераехалі ў самы прыгожы ў Маладзечне будынак. Школа тут была да 1975 года. Цяпер – цэнтр «Маладзік».

Маладзечанская футбольная каманда становіцца бронзавым прызёрам чэмпіянату Беларусі.

У Беразінскім пачалі будаваць торфапрадпрыемства. У горадзе запусцілі паратурбінную электрастанцыю.

У Мінску нарадзіўся будучы дырэктар завода парашковай металургіі, старшыня Маладзечанскага гарвыканкама, палітык, навуковец **Генадзь Карпенка**.

Стварылі музычную школу. Адразу яна месцілася ў драўляным будынку на тагачаснай вуліцы Чапаева.

### 1961

Пачаў сваю дзейнасць народны ансамбль песні і танца «Спадчына». А ў Красным стварылі саўгас.

Выйшаў фотаальбом, прысвечаны Маладзечну. У альбоме – фотаздымкі горада, якія рабілі прафесіяналы і аматары.

Нарадзілася паэтка і журналіст **Ала Страшынская**. Тут яна скончыла СШ №3. Ад 1995 года жыве ў Смаргоні.

Пабудавалі новы корпус улікова-планавага тэхнікума (цяпер – гандлёва-эканамічны каледж). А стары корпус пераабсталявалі пад інтэрнат для 270 навучэнцаў.

Маладзечанскія мастакі **Кастусь Харашэвіч** і **Ядвіга Раздзялоўская** ў суаўтарстве стварылі карціну для Мінскага абласнога краязнаўчага музея на тэму ўз'яднання Заходняй Беларусі з Усходняй. Карціна называлася «Маладзечна. 17 верасня 1939 года».

Сярэдняя школа №22 Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі становіцца сярэдняй школай №7 аддзела адукацыі Маладзечанскага гарвыканкама.

У студзені першых чытачоў сустрэў будынак цэнтральнай бібліятэкі. Адразу яна насіла імя Крупскай, пасля – Багдановіча. У 2014 годзе тут абвалілася столь. І да сёння будынак не працуе.

Адкрылі завочнае і вячэрняе аддзяленні ў Маладзечанскім музвучылішчы (сёння музкаледж імя Агінскага).

Зачынілі праваслаўную царкву Раства прасвятой Багародзіцы ў вёсцы Дубрава на Маладзечаншчыне. У савецкі час царкву перадалі пад склад калгасу. У 1980-м у Дубрава на бульбу прыехалі студэнты. Яны падпалілі склад. Доўгі час будынак стаяў у руінах. У 1993 годзе вернікі змаглі аднавіць царкву.

### 1973

Пабудавалі новы корпус радзільні з жаночай кансультацыяй і пачалі будаваць мост-пуцеправод над чыгуначнымі пуцямі.

Зачынілі медыцынскае вучылішча, якое працавала ад 1964 года. Сваю дзейнасць установа аднавіла ў 1988 годзе як філіял Мінскага медвучылішча. Сёння гэта Маладзечанскі медыцынскі каледж імя Залуцкага.

Кампазітар **Алег Елісеенкаў** скончыў Маладзечанскае музвучылішча. А археолаг **Міхась Ткачоў** даследаваў Маладзечанскае замчышча.

Пачала дзейнічаць аўтаматычная тэлеграфная станцыя.

Значок з выявай ураджэнца Вязынкі, Янкі Купалы, упершыню выпусцілі па-за межамі Беларусі – у Нью-Ёрку.

### 1985

Упершыню ў горадзе адкрылі класы для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізіялагічнага развіцця. Яны працавалі ў СШ №4.

Ганаровым грамадзянінам Маладзечна стаў ветэран Другой сусветнай, былы намеснік старшыні гарвыканкама **Павел Брацішка**.

У Гданьску памёр **Тодар Куніцкі** – ураджэнец вёскі Повязынь (1899 год нараджэння), што каля Маладзечна. Куніцкі – адзін з заснавальнікаў Беларускага студэнцкага саюза ва Універсітэце Стэфана Баторыя ў Вільні і Беларускага сялянскага саюза. Працаваў доктарам на Беласточчыне, пасля ў Вільні, Гданьску.

У цэнтры горада пабудавалі гасцініцу «Маладзечна».

Загадам Мінаблвыканкама пастанавілі пабудаваць у Маладзечне наркалагічны дыспансер. Праз год установа з'явілася.

У Афганістане загінуў ураджэнец Краснага лейтэнант, камандзір групы мініравання **Сяргей Новікаў**.

### 1997

Стварылі прадпрыемства «Дарвектар», дзе робяць дарожную тэхніку. У СШ №7 з'явіліся ліцэйскія класы.

Памёр мастак **Юры Герасіменка-Жызнеўскі** (год нараджэння – 1948). Аўтар першага герба Маладзечна – «Папараць-кветка».

Маладзечна значыцца ў лідарах краіны па беспрацоўі. Узровень беспрацоўя ў студзені – 5%.

Невядомыя падпалілі кіёск разам з прадаўцом, 20-гадовай **Таццянай**, якая памерла ад апёкаў. Здарылася гэта трагедыя каля магазіна, які маладзечанцы называюць «Крывы».

Дабудавалі касцёл, што за кінатэатрам «Радзіма», а таксама – праваслаўную царкву на Будаўнікоў.

Па распараджэнні аддзела адукацыі выпускныя рэкамендавалі праводзіць не ў школах, а ў рэстаранах.

### 2009

13 чэрвеня прайшоў юбілейны, дзясяты, фестываль беларускай песні і паэзіі.

Пабудавалі станцыю ачысткі вады ў мікрараёне Гелянова. А мясакамбінат пачаў працаваць пад назвай «Вялес-Міт».

Пасля рэканструкцыі пачаў працаваць аўтавакзал.

Змяніўся тэлефонны код Маладзечна. Замест **01773** стаў **0176.**

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

---

● КАЛЯНДАР

**4 СНЕЖНЯ**

**1874.** У Куранцы нарадзіўся **Леў Альпяровіч**, беларускі жывапісец. Памёр у 1913 у Мінску. Некалькі прац мастака захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.



**1939.** Утвораныя Вілейская, Баранавіцкая, Беластоцкая, Брэсцкая і Пінская вобласці БССР.

**1946.** На Маскоўскім заводзе малалітражных аўтамабіляў (МЗМА) пачатая серыйная вытворчасць аўтамабіляў маркі «Масквіч».

**5 СНЕЖНЯ**

**1876.** Нарадзіўся **Юзаф Пілсудскі**, м. Зулаў Свянцянскага павета. Польскі дзяржаўны і палітычны дзеяч.

**6 СНЕЖНЯ**

**1800.** У Крывічах Вілейскага павета нарадзіўся **Іосіф (Язэп, Юзаф) Ходзька**, геадэзіст, географ. Памёр 21.11.1981 у Тыфлісе, цяпер Тбілісі.

**7 СНЕЖНЯ**

**1878.** У в. Навасады (цяпер Ашмянскі раён) нарадзіўся **Андрэй Зязюля** (Аляксандр Астрамовіч), паэт, беларускі каталіцкі святар. Памёр 17.01.1921.

**1991.** У Віскулях кіраўнікамі БССР, РСФСР і УССР падпісаны дагавор аб спыненні СССР.

**8 СНЕЖНЯ**

**1432.** Бітва пад Ашмянамі – першая буйная бітва феадальнай вайны ў ВКЛ паміж войскамі вялікіх князёў **Свідрыгайлы** і **Жыгімонта Кейстутавіча**.

**9 СНЕЖНЯ**

**1891.** Нарадзіўся **Максім Багдановіч**, беларускі паэт, публіцыст, літаратурны крытык. Памёр 25.05.1917.



**10 СНЕЖНЯ**

**1870.** У маёнтку Багданава каля Валожына нарадзіўся **Фердынанд Рушчыц**, жывапісец і педагог. Памёр 30.10.1936.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# «Хочацца жыць, рухацца і ведаць праўду»

## Даведаліся, чым жыве раённая арганізацыя Беларускага таварыства інвалідаў

МАЛАДЗЕЧНА

**30 год працуе ў Маладзечне раённая арганізацыя Беларускага таварыства інвалідаў. Апошнія восем год арганізацыяй кіруе маладзечанец Васіль Таркан.**


Фота забяспечанае Васілём ТАРКАНАМ.

Сябры маладзечанскай раённай арганізацыі Беларускага таварыства інвалідаў падчас падарожжаў.

– Працаваць з людзьмі заўсёды весела, – падзяліўся Васіль Аляксеевіч. – Стараемся ўвесь час нешта рабіць. Ладзім экскурсіі, паездкі, спартыўныя спаборніцтвы.

### Хто яны – сябры арганізацыі

Па словах старшыні, у арганізацыі на сёння 307 чалавек. Гэта людзі розных узростаў. Ёсць сярод іх як гараджане, так і з Маладзечанскага раёна. Пару год таму да маладзечанскай арганізацыі далучылася ільянская пярвічка інвалідаў:

– Іх каля 20 чалавек. Кіраўнік – актыўны ільянец **Віктар Філістовіч**. Ён, інвалід-вазочнік, знаходзіць транспарт, каб прыехаць да нас, у Маладзечна, па справах, па гуманітарную дапамогу.

### Спадзяванні на сябе і на спонсараў

Васіль Аляксеевіч адзначае, што раней арганізацыя адчувала куды большую падтрымку з боку мясцовых уладаў. Цяпер жа – спадзяванні толькі на сябе і на спонсараў, якія часам падтрымліваюць. Гэта прадпрыемствы «ММЦ», «Маладзечнамэбля», «ЭНЭФ», электрамеханічны завод… Спіс можна працягваць, адзначае Васіль Таркан. – Мясцовыя фермеры частуюць яблыкамі, кандытарскія прадпрыемствы – ласункамі да чаявання.

Былы дырэктар Мінскага абласнога драматычнага тэатра **Юры Крывенькі** ўручаў сябрам арганізацыі білеты на спектаклі. Дзякуючы дырэктару Маладзечанскага Палаца культуры **Святлане Сароцы** сябры таварыства інвалідаў наведваюць канцэрты ў палацы і амфітэатры.

– Дапамагае тое, што 33 гады я адпрацаваў у мастацкай школе ў Маладзечне, якую ў свой час заснаваў. У горадзе шмат людзей, якія мяне ведаюць, шмат былых вучняў. Яны звычайна адгукаюцца на мае просьбы. Дзякуй тым, хто памятае, што ў нашым грамадстве ёсць людзі з інваліднасцю, – працягвае Васіль Таркан.

### Падарожжы, фестывалі, ягады, грыбы

У арганізацыі ёсць актыў – своеасаблівы касцяк. Гэта дзесяць чалавек. Кожны мае сваю галіну адказнасці. Адзін адказвае за культурныя імпрэзы, іншы – за спартыўныя спаборніцтвы.

Да пандэміі прадстаўнікі таварыства шмат падарожнічалі. Ездзілі ў Крэва і Смаргонь, пракаціліся ўздоўж Вілейскага вадасховішча. Запамінальнай была паездка ў Санкт-Пецярбург. З экскурсій прывозяць шмат уражанняў і фотаздымкаў.

Прадстаўнікі арганізацыі ўдзельнічалі ў абласных, рэспубліканскіх і міжнародных мерапрыемствах. Спевакоў і рукадзельніц штогод накіроўвалі на фестываль нацыянальных культур у Гродна, былі і на «Славянскім базары» ў Віцебску.

З канцэртамі выступалі ў доме-інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў у Маладзечне, у падобнай установе ў Сасновым Бары. Ладзілі конкурсы і спартыўныя спаборніцтвы. Гулялі ў тэніс, шахматы, шашкі. Такія ініцыятывы заўсёды падтрымліваў ранейшы начальнік аддзела спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Мікалай Шрымф**.

– А яшчэ маглі сабрацца і паехаць у грыбы ці ягады ў лес на Вілейшчыну або Валожыншчыну, – працягвае Васіль Таркан.

### Сёлета жыццё арганізацыі было менш насычаным з-за пандэміі

Штогод сябры арганізацыі віншавалі юбіляраў з падарункамі і чаяваннем. Сёлета перашкодзіла пандэмія. Увогуле з-за эпідсітуацыі жыццё таварыства ў апошні год было спакайнейшым, чым звычайна.

Нават у сталым узросце хочацца развівацца, жыць, рухацца, адзначае суразмоўца, а яшчэ хочацца праўды:

– Мы ў такім узросце, калі хочацца хоць каваалачак праўды, калі стаміліся ад хлусні. Таму сябры нашай арганізацыі з вялікім задавальненнем чытаюць «Рэгіянальную газету». Яна справядлівая і праўдзівая, – падсумаваў суразмоўца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Ладзяць дабрачынную акцыю

## Дзедам Марозам можа стаць кожны

МАЛАДЗЕЧНА

**Арганізацыя «Бумеранг дабра» ладзіць сёлета навагоднюю акцыю «Дзед Мароз пад прыкрыццём» для дзяцей-сірот і дзяцей з інваліднасцю.**

Дзеці пішуць ліст Дзеду Марозу, дзе расказваюць пра свае пажаданні.

**Арганізатары размяшчаюць лісты з пажаданнямі на ёлцы ў ГЦ «Спадарожнік». Любы ахвотны можа здзейсніць дзіцячую мару.**

Падарункі будзе раздаваць Дзед Мароз і Снягурачка ў «Легале» ў «Спадарожніку» і ў забаўляльным цэнтры «Задорынка».

**Звязацца з арганізатарамі можна па нумарах: (8-025) 513-69-80, (8-044) 539-95-59.**

**Зоя ХРУЦКАЯ.**


Фота Настассі УТКІНАЙ.

Мінулагодняя акцыя.


Ілюстрацыя oko-planet.su

# Шматвектарнасць Беларусі і ўкраінская рэвалюцыя. Чаму пра гэта бясконца пішуць расійскія прапагандысты

**Беларускія прэзідэнцкія выбары ў жніўні падарылі расійскім прапагандыстам новыя тэмы для артыкулаў. Адной з ключавых тэм стала крытыка шматвектарнасці палітыкі Лукашэнкі.**

«Рэгіянальная газета» на прыкладзе артыкула «Украинский урок должен отучить Белоруссию от «многовекторной» проституции» пад аўтарствам **Сяргея Арцёменкі** на партале iarex.ru прааналізуе, як расійская прапаганда спрабуе даказаць, што Беларусь ідзе па ўкраінскім шляху.

### Дыпламатычная вайна

Сяргей Арцёменка ў сваім артыкуле апелюе да цытат дыпламатаў і дзяржаўных дзеячаў. Напачатку аўтар піша, што раніцай 30 кастрычніка разгарэўся «міжнародны скандал» з-за слоў намесніка міністра замежных спраў Расіі **Алега Сырамолатава**. Той сказаў, што ў расійскага боку ёсць інфармацыя, што дэстабілізацыяй сітуацыі ў Беларусі кіравалі з Украіны.

МЗС Украіны адрэагавала ў асобе намесніка міністра **Васіля Боднара**. Боднар адзначыў, што значная адказнасць за сітуацыю ў Беларусі ляжыць на Расіі, расійскі бок не хоча дэмакратызацыі ў краіне-суседцы. Таксама Боднар намякнуў і на расійскія спецслужбы. Дарэчы, Сырамолатаў працаваў у савецкія часы ў КГБ, а пасля ў ФСБ.

Арцёменка падмацоўвае свае высновы пра ўплыў Украіны на ўнутрыпалітычную абстаноўку ў Беларусі словамі Аляксандра Лукашэнкі. Ён неаднаразова вінаваціў заходнія краіны (Польшчу, Літву, Чэхію) і Украіну ва ўмяшанні. Аўтар артыкула ідзе далей, кажа пра тое, што лялькаводзіць усё роўна не афіцыйны Кіеў, а ЗША.

Галоўны сэнс гэтай часткі артыкула палягае ў тым, што шматвектарная палітыка краін – гэта памылка і тупік. Таму што на такія краіны ўплываюць больш магутныя дзяржавы, выкарыстоўваючы іх у сваіх інтарэсах.

### «Справа вагнераўцаў» – прыклад ілжы з боку Украіны

Асобна вылучаецца «справа вагнераўцаў» – гэта як прыклад памылковай стратэгіі шматвектарнасці Украіны. Згодна з версіяй Арцёменкі, натхняльнікам справы вагнераўцаў з'яўляецца ЗША, выканаўца – украінскія спецслужбы. А пацярпелі Беларусь і Расія, бо адносіны гэтых краін спрабавалі пагоршыць.

Тут жа апраўдваюць былога дзяржсакратара Рады бяспекі **Андрэя Раўкова**, які «зусім дайшоў да лжывага абвінавачвання Расіі ў падрыхтоўцы ваеннага ўварвання». Арцёменка не кажа і пра больш за сто вагнераўцаў, якія, па словах Раўкова ў жніўні, застаюцца дзесьці ў Беларусі.

Аўтар не прыводзіць ні адной цытаты Лукашэнкі, які адкрыта абвінавачваў Расію, паўтараў словы Раўкова пра лагеры вагнераўцаў, якія плануюць адправіць рабіць рэвалюцыю ў Беларусі.

### Шматвектарнасць непатрэбная, лепш – Саюзная дзяржава

Напрыканцы тэксту Арцёменка робіць выснову, што шматвектарнасць у міжнароднай палітыцы – гэта памылка, якая пацвярджаецца на прыкладзе Украіны. Аляксандр Лукашэнка памылку паўтарае.

Свежым прыкладам з'яўляецца непрызнанне Кіевам прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Маўляў, у 2014 годзе Аляксандр Лукашэнка насуперак Расіі прызнаў рэвалюцыю годнасці, а цяпер украінцы адмаўляюць легітымнасць Лукашэнкі. І толькі Расія, нягледзячы на беларускі нейтралітэт па крымскім пытанні, застаецца на баку Аляксандра Рыгоравіча.

Такім чынам, на думку аўтара артыкула, выйсцем са шматвектарнай палітыкі з'яўляецца разварот да Саюзнай дзяржавы, дзе Лукашэнка атрымае ўсебаковую расійскую падтрымку.

### «Шматвектарнасць крытыкуюць выданні імперскага кірунку»

«Рэгіянальная газета» запыталася ў беларускага эксперта па міжнароднай палітыцы **Андрэя Фёдарава**, чаму расійская прапаганда настойліва крытыкуе шматвектарнасць Аляксандра Лукашэнкі.

Па словах Фёдарава, шматвектарнасць прадугледжвае, што краіна будзе арыентавацца ў знешняй палітыцы не на аднаго, а на многіх партнёраў, а таксама з імі супрацоўнічаць. У шматвектарнай палітыцы ёсць дзве асаблівасці, на якіх грунтуецца супрацоўніцтва з краінамі: бяспека і гандлёвыя адносіны.

Да апошніх гадоў галоўнымі партнёрамі Беларусі былі Расія і Кітай. З заходнімі краінамі беларускі бок так не мог кантактаваць праз ідэалагічныя рознагалоссі.

Фёдараў кажа, што беларускую шматвектарнасць крытыкуюць выданні імперскага кірунку, бо яны баяцца прыкладу Украіны, Грузіі і Малдовы.

– Можа, яны баяцца натаўскіх танкаў пад Смаленскім, але гэта глупства. Безумоўна, яны задаволеныя, што ў свеце апошніх падзей Беларусь аддалілася ад Захаду. Упэўнены, што задаволеныя і ў Крамлі.


Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



Фота чытача.

Затрыманне ў Маладзечне.



Фота Насткі УТКІНАЙ.

Міліцыянеры просяць людзей сысці ад касцёла.




Фота чытача.

Віляйчук трымае бел-чырвона-белы сцяг на фоне Вілейкі.




Фота чытача.

Дзяўчына з бел-чырвона-белым сцягам каля мурала ў Чысці.

# Акцыі пратэсту адбыліся ў нядзелю ў рэгіёне

**29 лістапада ў Маладзечне, Чысці і Вілейцы праходзілі акцыі пратэсту. Людзі не змаглі сабрацца ў калону, таму проста шпацыравалі па галоўных вуліцах.**

### Маладзечна

У 12 гадзін людзі пачалі збірацца ля Чырвонага касцёла. Побач стаяла не менш за тры міліцэйскія машыны (каля Лядовага палаца і на паркоўцы ГЦ «Тройка»). Людзі арганізаваліся ў невялікую групу, сталі каля ўвахода на тэрыторыю касцёла.

Да іх хутка падышлі чатыры супрацоўнікі міліцыі. Адзін з іх здымаў твары людзей на відэакамеру, яшчэ адзін прасіў разысціся. Людзі спрабавалі даведацца, чаму ім нельга стаяць каля касцёла. У выніку сышлі. Супрацоўнікі засталіся дзяжурыць каля святлафора.

Міліцыянеры патрулявалі тэрыторыю каля гарадскога парку, плошчу. Там жа былі прыпаркаваныя міліцэйскія аўто і характэрны аўтобус з завешанымі вокнамі. Дарэчы, такі ж характэрны мікрааўтобус стаяў і на паркоўцы «Тройкі».

Каля 14 гадзін відавочцы паведамілі, што каля галоўнага ўвахода ў парк затрымалі маладога чалавека ў байцы з выявай герба Пагоня. Як паведаміла «Рэгіянальнай газеце» афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук**, маладзечанца даставілі ў аддзяленне міліцыі для прафілактычнай гутаркі. Яму вынеслі афіцыйнае папярэджанне, пасля адпусцілі. Таксама Крук удакладніла, што ў нядзелю ў Маладзечне нікога не затрымалі па артыкуле 23.34 КаАП.

Па нашай інфармацыі, у Маладзечне ў розных пунктах горада шпацыравалі дэманстранты.

### Чысць

Акцыі пратэсту адбыліся ў гэтым населеным пункце Маладзечанскага раёна. У Чысці людзі са сцягамі сабраліся каля бела-чырвонага мурала. Увечары чысцінцы разам з дзецьмі ляпілі бел-чырвона-белых снегавікоў.

### Вілейка

Днём у Вілейцы людзі з бел-чырвона-белымі сцягамі шпацыравалі каля плошчы Леніна. Увечары вілейчукі таксама сабраліся. Яны сталі на плошчы Свабоды з бел-чырвона-белымі сцягамі і плакатамі, скандавалі «Жыве Беларусь!».

**Настасся УТКІНА.**




2021 будзе годам Белага Металічнага Быка.

# Якім будзе новы 2021 год

**Апекуном 2021 года будзе Белы Металічны Бык. Расказваем, што чакае людзей пасля года выпрабаванняў пад знакам Белага Пацука.**

Бык пачне свае паўнамоцтвы 12 лютага. Ён займае другое ў месца ў задыякальным шэрагу кітайскага задыяка, заснаваным на 12-гадовым цыкле. Скончыць свае паўнамоцтвы год Быка 30 студзеня 2022 года.

### Што чакаць ад новага года

Год, які ідзе пасля высакоснага, мае быць спакойным і ўраўнаважаным. Давядзецца нямала працаваць, і не толькі ў прафесійным плане. Поспех асабістых адносін будзе залежаць ад таго, наколькі вы будзеце гатовыя ўкладвацца ў іх. А самая сур'ёзная праца, якая вас чакае, – над сабой, самаадукацыяй і развіццём кругагляду.

Часам будзе падавацца, што працы вельмі шмат. Сапраўды, давядзецца прыкласці намаганні, каб выраўняць тое, што адбылося ў 2020 годзе. Затое напрыканцы года вы зможаце пабачыць, як шмат плёну прынесла ваша дзейнасць. Бык вельмі любіць сумленных і адказных людзей, гэта асноўныя якасці, каб вам спрыяў лёс у справах.

**Пасля вар'яцкіх падзей, якія прынёс Пацук у 2020 годзе, вам давядзецца будаваць трывалы фундамент для новага жыцця – таго, за якое вы змагаліся апошні час.**

Што тычыцца інтымных сувязяў і прыватнага жыцця, то Бык не спрыяе новым знаёмствам. Большага поспеху вы дасягняце, калі будзеце развіваць глыбіню адносін з тымі, хто ўжо заваяваў ваша сэрца. Важна, каб вашы пачуцці былі шчырыя, а вам самім хапала смеласці выказваць тое, што адчуваеце.

**Сямейных людзей чакае мір і ўтульнасць. Дом стане месцам, дзе вы зможаце назапашваць сілы і адпачываць.**

Бык з павагай ставіцца да тых, хто з карысцю бавіць вольны час і па-разумнаму распараджаецца сямейнымі вечарамі.

### Як сустракаць год Быка

Бык любіць кансерватыўныя падыходы, таму лепшым варыянтам будзе сустрэць год разам з каханымі і любімымі людзьмі – тымі, каго лічыце сям'ёй.

**Накрыйце стол простымі сытнымі стравамі. Няхай будзе бульба з мясам, толькі пазбягайце ялавічыны.**

Пастарайцеся паставіць розныя саленні і гародніну. Зрабіце некалькі салатаў, здаўна знаёмых. Для далікатэсаў і кулінарных навінак лепш выбраць іншы дзень. Паклапаціцеся, каб быў прыемны дэсерт, пажадана штосьці лёгкае.

Надыходзячы год апякуе Белы Металічны Бык. Так што вытрымлівайце ва ўбранні гэтыя колеры – так вы прыцягнеце ўдачу ў справах. На святочным стале пажадана мець металічны падсвечнік або талерку.

### Хто нараджаецца ў год Быка

Пад знакам Быка нарадзіліся тыя, хто з'явіўся на свет у 1961, 1973, 1985, 1997, 2009 гадах.

Быкі – надзейныя, моцныя і рашучыя людзі. Яны сумленныя і патрыятычныя, вераць у ідэалы і поўныя здаровых амбіцый. Такім людзям важныя традыцыі, яны ў пазітыўным сэнсе кансерватыўныя. Калі яны становяцца бацькамі, то шмат сіл і часу аддаюць на адукацыю дзяцей.

**Гэта вельмі цярплівыя людзі, што дае ім вялікую перавагу перад іншымі. Яны дасягаюць мэты крок за крокам. Могуць пражыць жыццё дакладна ў той паслядоўнасці, у якой задумалі.**

Пры гэтым не залежаць ад меркавання іншых людзей, што робіць іх дарогу прасцей – ім няма патрэбы азірацца яшчэ і на тое, што ніяк не спрыяе прасоўванню да мэты.

**Сярод мінусаў Быкоў – не самыя лепшыя камунікатыўныя здольнасці. Таму праца, звязаная з камунікацыяй, будзе не самай простай. Затое як сябры Быкі вельмі надзейныя і клапатлівыя.**

Народжаныя пад гэтым знакам доўга жывуць і маюць моцнае здароўе, якое важна падтрымліваць фізічнай нагрузкай. Могуць вытрымліваць напружанне і стрэс, звязаны з працай. Гэта дапамагае даводзіць да фіналу самыя складаныя заданні.

Для Быкоў асабліва будуць падыходзіць работы ў сферы сельскай гаспадаркі, вытворчасці, фармацэўтыкі, механікі, у машынабудаўніцтве, мастацтве, палітыцы, нерухомасці, дызайне.

### Адносіны з Быком

Быкам складана будаваць адносіны з іншымі, але калі вы ўвойдзеце ў кола блізкіх людзей, то атрымаеце надзейнага і адказнага сябра або каханага.

**З такімі людзьмі можна адважвацца на самыя няпростыя праекты – як асабістыя, так і працоўныя. Яны давядуць усё да канца, прычым выканаюць сваю частку абавязкаў на выдатна.**

Найлепшая сумяшчальнасць для Быка – з Пацукамі, Малпамі і Пеўнямі. Найгоршая – з Тыграмі, Драконамі, Коньмі.

**Сярод знакамітасцяў, якія нарадзіліся ў год Быка, – Напалеон Банапарт, Ганс Хрысціян Андэрсан, Уолт Дыснэй, Рэд'ярд Кіплінг, Вінсэнт Ван Гог, Маргарэт Тэтчар, прынцэса Дыяна, Уладзімір Высоцкі.**

### Якім будзе год для Быкоў

Для тых, хто нарадзіўся пад знакам Быка, 2021 год будзе Годам Лёсу. Традыцыйна гэта год, калі чалавека чакае шмат лёсавызначальных рашэнняў і выпрабаванняў. Вам будзе спрыяць апякун года ў кар'еры, асабістых справах і ўсім, што вас клапоціць.

**Эмілія ХВОЯ.**

# Міжнародная федэрацыя хакея пакінула дыскваліфікацыі дынамаўцам

**Сем гульцоў маладзечанскага «Дынама» яшчэ два гады не змогуць гуляць у міжнародных турнірах. Такое рашэнне пакінула ў сіле дысцыплінарная калегія Міжнароднай федэрацыі хакея, а федэрацыя хакея Беларусі прасіла змяншыць тэрмін дыскваліфікацыі.**



Хакеістаў дыскваліфікавалі з-за дамоўнага матча ў 2019 годзе.

Дысцыплінарная калегія Міжнароднай федэрацыі хакея падтрымала першапачатковае рашэнне Дысцыплінарнага камітэта федэрацыі хакея Беларусі па дыскваліфікацыі сямі беларускіх гульцоў за ўдзел у дамоўным матчы. Разам з тым, калегія не прыняла прапанову беларускай федэрацыі па скарачэнні тэрміну дыскваліфікацыі для шасці з сямі гульцоў.

Федэрацыя хакея Беларусі пакарала за дамоўную гульню сем гульцоў: **Паўла Баерчука**, **Станіслава Кучкіна**, **Вячаслава Лісічкіна**, **Аляксея Іванова**, **Мікіту Усціненку**, **Сяргея Шэлега**, **Аляксандра Сырэя**.

Гэтых гульцоў адхілілі ад удзелу ва ўсіх спаборніцтвах і мерапрыемствах пад эгідай Міжнароднай федэрацыі хакея.

**Тэрмін дыскваліфікацыі: ад 2 ліпеня 2020 года да 30 чэрвеня 2022 года ўключна.**

Пасля было прынятае дадатковае рашэнне па часовай дыскваліфікацыі хакеістаў ва ўсіх спаборніцтвах пад эгідай нацыянальных асацыяцый-членаў Міжнароднай федэрацыі да 31 мая 2021 года.

### Што і калі прасіў беларускі бок?

8 і 21 кастрычніка Дысцыплінарная калегія адхіліла прапановы беларускай федэрацыі аб скарачэнні тэрміну дыскваліфікацыі ў дачыненні да Баерчука, Кучкіна, Лісічкіна, Усціненкі і Шэлега. У калегіі прыйшлі да высновы, што для скарачэння дыскваліфікацыі няма дастаткова падстаў, якія адпавядаюць палажэнням Статута і рэгламенту Міжнароднай федэрацыі.

### Беларуская федэрацыя лічыць, што гульцы раскайваюцца

8 кастрычніка Дысцыплінарны камітэт федэрацыі прызнаў, што дзейнасць хакеістаў падчас іх дыскваліфікацыі пацвярджае, што гульцы шкадуюць аб супрацьпраўных дзеяннях і робяць спробы змякчыць шкоду, якую яны нанеслі рэпутацыі хакея.

Калі б прапановы Дысцыплінарнага камітэта беларускай федэрацыі прынялі, то тэрмін дыскваліфікацыі Лісічкіна склаў усяго 9 месяцаў, Кучкіна, Баерчука, Усціненкі і Шэлега – 8 месяцаў.

**Паводле hockey.by.**

# «Маладзечна» і «Хімік» згулялі ўнічыю ў першым стыкавым матчы за выхад у першую лігу

**Маладзечанскія футбалісты згулялі ўнічыю са светлагорскім «Хімікам» у першым стыкавым матчы – 0:0.**

Маладзечанцы завяршылі сезон у другой лізе, а цяпер змагаюцца ў стыкавых гульнях з «Хімікам» за выхад у першую лігу. А «Хімік» будзе старацца захаваць прапіску ў першай лізе.

28 лістапада ў Светлагорску каманды правялі безгалявую сустрэчу, таму ўсё будзе вырашацца на маладзечанскім стадыёне ў суботу.

5 снежня маладзечанцы правядуць апошнюю гульню ў гэтым годзе. Матч адбудзецца ў Маладзечне супраць светлагорскага «Хіміка».

Нагадаем, па выніках сезона маладзечанцы занялі трэцяе месца ў другой лізе.

**Настасся УТКІНА.**

# Прадстаўнікі «Дынама-Маладзечна» падпісалі праўладны ліст спартсменаў. Фанаты не супраць

**Галоўны трэнер «Дынама-Маладзечна» Канстанцін Кальцоў і гулец Павел Дзянісаў падпісалі праўладны ліст спартсменаў.**

– Мы працуем для таго, каб перамагаць на спартыўных арэнах, а не на палітычных арэнах, таму, у прынцыпе, я за тое, каб не агітавалі супраць спартсменаў. Я ведаю, што цяпер шмат крытыкі на адрас спартсменаў, таму я за тое, каб спорт быў па-за палітыкай, – пракаментаваў падпісанне ліста Кальцоў «Беларусь 1».

Праўладны ліст спартсменаў з'явіўся ў папяровай версіі «Спартыўная Панарама», які выдае Мінспорту. Спачатку пад ім падпісаліся ўсяго пяць спартсменаў. Па словах намесніка міністра спорту **Аляксандра Бараўлі**, на 29 лістапада гэты ліст падпісалі дзве з паловай тысячы чалавек. Аднак усе імёны гэтых спартсменаў не называюцца.

**Цяпер вядома не больш за 20 спартсменаў, якія падпісаліся.**

Па інфармацыі «Трыбуны», аўтарам праўладнага ліста з'яўляецца **Уладзімір Пехцераў** – галоўны рэдактар «Спартыўнай Панарамы». Ліст быў напісаны больш за месяц таму і ўвесь гэты час праходзіў узгадненне ў Міністэрстве спорту і Нацыянальным алімпійскім камітэце.

У жніўні беларускія спартсмены арганізавалі Свабоднае аб'яднанне спартсменаў. Ад аб'яднання яны напісалі адкрыты ліст да ўлады, у якім заклікалі правесці новыя выбары і выступілі супраць гвалту. Цяпер пад гэтым лістом больш за 1200 спартсменаў, трэнераў і спартыўных журналістаў. Імёны ўсіх падпісантаў размешчаныя ў свабодным доступе.

Фанаты клуба сказалі, што падтрымаюць любое рашэнне гульцоў. Падпісаць ці не падпісаць – гэта права чалавека, на думку фанатаў. Таксама фанацкі сектар папрасіў кіраўніцтва клуба не ціснуць на гульцоў, таму што ў іх пачынаецца важны перыяд у сезоне – барацьба за плэй-оф.

**Настасся УТКІНА.**

# Крыжаванка
## ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Адчуванне фізічнай або маральнай пакуты.
2. Невялікі хлеб з пшанічнай мукі, белы хлеб.
3. Змена верхняга покрыва ў жывёл і птушак у пэўныя перыяды.
6. Кантора, канцылярыя, служба.
8. Уласцівы асобным, малавядомым, далёкім краінам; незвычайны для гэтай мясцовасці.
11. Штучны вадаём для плавання са сценамі, умацаванымі цэглай, цэментам.
12. Плоскія драўляныя загнутыя спераду палазы, якія прымацоўваюць да абутку для перамяшчэння па снезе.
14. Адсутнасць святла.
15. Бязглуздзіца.
17. Янка Купала: «Дум не скуеш ...».
18. Прызыўны гук.
20. Закрытая пасудзіна для вадкасцей.
22. Размова паміж дзвюма або некалькімі асобамі.
23. Адзінка вымярэння аб'ёму і ёмістасці, роўная 1000 кубічных сантыметраў.
24. Бізнесмен Джэры Рычардсан на пытанне: «Што самае страшнае, што можа адбыцца з вамі ў фінансавым плане?» адказаў: «...».

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Святар, публіцыст, кнігавыдавец Адам Станкевіч хадзіў у царкоўна-прыходскую школу ў гэтай вёсцы Ашмянскага раёна.
4. Орган, які выпрацоўвае неабходныя для арганізма рэчывы або выдаляе з арганізма шкодныя рэчывы.
5. Слізістая абалонка поласці рота, якая пакрывае зубныя адросткі сківіц.
7. Выцяжка з раслін ці моцны настой на спірце, у кіслаце, які ўжываецца ў медыцыне, касметыцы.
9. Прамежак часу ў дзесяць дзён.
10. Упрыгожанне, якое прымацоўваецца да мочкі вуха.
12. Норма, у межах якой дазволена карыстацца чым-небудзь, расходаваць штосьці.
13. Прыстасаванне з паверхняй, якая адбівае, паглынае ці пераўтварае выпраменьванне розных відаў энергіі з мэтай аховы ад выпраменьвання ці яго выкарыстання.
14. Агульнапрынятыя парадак, правіла, якое здаўна ўкаранілася ў быце народа або пэўнай грамадскай групы.
16. Прадукты.
19. Адзінка аптычнай сілы лінзы або сферычнага люстра.
20. Бажаство жаночага полу.
21. Прадмет сялянскай мэблі – шырокая дошка на ножках для сядзення, звычайна прыстаўленая да сцяны.
22. Нявораная зямля, густа парослая травой.
25. Частка расліннага ці жывёльнага арганізма, якая выконвае пэўную функцыю.

## Адказы на крыжаванку з №48

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Маляваць. 2. Комплекс. 4. Кактус. 6. Імя. 7. Інспектар. 11. Знішчыць. 12. Мелодыя. 14. Джаз. 15. Цень. 16. Маркотны. 17. Цвік. 19. Ціск. 21. Сюрпрыз. 22. Кабура. 24. Клятва.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 3. Максімум. 5. Пятля. 7. Імперыя. 8. Гідраксід. 9. Сюжэт. 10. Бальніцы. 13. Міна. 14. Данія. 15. Цурок. 16. Млын. 17. Цыкл. 18. Чырвонае. 20. Спёка. 21. Струна. 23. Кабіна.

## ● ГАРАСКОП НА 4-10 СНЕЖНЯ

**АВЕН.** У вас так шмат планаў, што будзе складана не заблытацца ў іх рэалізацыі. Каб усё задуманае здзейснілася так, як хочаце вы, паспрабуйце новыя спосабы рашэння звыклых задач.

**ЦЯЛЕЦ.** Будзе напружаны перыяд, так што пачынаць штосьці новае непажадана. Не хавайце пачуццё гумару, яно вельмі дапаможа і вам, і тым, хто апынецца побач. Менавіта жарт стане спосабам разгрузіць атмасферу.

**БЛІЗНЯТЫ.** У вас будзе магчымасць рызыкнуць па-сур'ёзнаму. Толькі вам выбіраць, ці варта гэта рабіць. З аднаго боку – хто не рызыкуе, той не п'е шампанскае. З іншага – сініца ў руках часта нашмат надзейней.

**РАК.** Вас чакаюць яркія перамены і выгадныя прапановы. Нават не давядзецца ламаць галаву, таму што выбар будзе відавочны. Важна заставацца шчырымі з самім сабой.

**ЛЕЎ.** Магчыма, будзе падавацца, што вашы сілы заканчваюцца і ўжо не хапае энергіі, каб прымаць важныя рашэнні. Паспрабуйце ўспомніць свае дзіцячыя мары, гэта можа натхніць.

**ДЗЕВА.** Спатрэбіцца дакладна спланаваць бліжэйшыя тыдні. Увасабляцца ў жыццё ўсё будзе па празрыстым прынцыпе: чым дакладней плануеце, тым лепшым атрымаецца вынік.

**ШАЛІ.** Давядзецца правільна расстаўляць прыярытэты, каб нічога не выпусціць з рук. Будзьце тактоўнымі з людзьмі рознага сацыяльнага статусу.

**СКАРПІЁН.** Творчыя людзі змогуць прадэманстраваць працу шырокай аўдыторыі, якая будзе ад работ у захапленні. У асабістым жыцці магчымае знаёмства, якое разбурыць цяперашнія адносіны.

**СТРАЛЕЦ.** Спатрэбіцца быць у пастаянным руху, прычым і нагамі, і галавой. Чым больш ідэй згенерыруеце, тым больш прыемны вынік атрымаеце.

**КАЗЯРОГ.** Вы будзеце скарацьіншых сваёй рашучасцю. Магчыма, давядзецца абараняць іншых людзей, якім будзе неабходная дапамога і падтрымка. У рамантычных адносінах пастарайцеся арганізаваць вечар для каханага чалавека такім, якім бачыце яго ў марах.

**ВАДАЛЕЙ.** Зоркі раяць накіраваць сілы на абсалютна новую сферу. У працы паспрабуйце заняць сябе новай задачай, у вольны час знайдзіце сілы ў хобі, якое для вас нечаканае. І ў прыватным жыцці пастарайцеся быць рашучымі з людзьмі, якія вас крыўдзяць.

**РЫБЫ.** Нечакана вы сустрэнеце людзей, якіх вельмі даўно не бачылі. Прычым гэта сустрэча стане надзвычай важнай. Вы зможаце вырашыць актуальныя пытанні і нават аблегчыць душу шчырай гутаркай. Пастарайцеся паклапаціцца пра здароўе і паўнавартасны адпачынак.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 7 | 6 | 1 | |
| | | 7 | 4 | 8 | | | | 2 |
| | | | | 5 | 6 | 8 | | 3 |
| | 9 | | 6 | | 8 | 2 | | |
| | 5 | | | 4 | | 9 | | |
| | 6 | | | | | | 8 | 1 |
| | 7 | | | | | | 2 | 9 |
| 5 | | | | 2 | | 7 | 4 | |
| | | | | | 4 | 3 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3Х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


# Дайджэст: Адмовілі друкаваць «Брестскую газету», Літва прапануе бясплатныя візы

**Прапануем агляд важных падзей, якія адбыліся ў Беларусі і свеце за апошні тыдзень.**

### Літва гатовая даць бясплатныя візы беларусам, якія церпяць ад рэпрэсій

Міністэрства замежных спраў Літвы прапануе грамадзянам Беларусі, якія пераследуюцца рэжымам, выдаваць літоўскія нацыянальныя візы бясплатна. Такія візы будуць выдавацца грамадзянам Беларусі ў выпадку падачы матываваных заяў аб неспагнанні падатковага консульскага збору літоўскіх дзяржаўных органаў або зарэгістраваных у Літве няўрадавых арганізацый, якія дзейнічаюць у сферы абароны правоў чалавека і дэмакратыі. Такі праект пастановы павінны быць разгледжаны на гэтым тыдні на пасяджэнні ўрада.

### Друкарня адмовілася друкаваць «Брестскую газету» ад 2021 года

27 лістапада на імя дырэктара і галоўнага рэдактара ТАА «Брестская газета» **Віктара Марчука** па факсе прыйшоў ліст за подпісам дырэктара Брэсцкай друкарні **Вячаслава Шахлевіча**. У ім гаварылася, што ад 1 снежня 2020 года «па тэхнічных прычынах» графік друкавання газеты пераносіцца на 15:00. Да гэтага часу газета друкавалася ў 9:00. Галоўны рэдактар паспрабаваў высветліць, аб якіх «тэхнічных прычынах» ідзе гаворка, але Шахлевіч адмовіўся што-небудзь каментаваць, спаслаўшыся на занятасць. А раніцай 30 лістапада ад імя дырэктара друкарні прыйшоў яшчэ адзін факс.

«Паведамляем, што 31.12.2020 заканчваецца тэрмін дзеяння дагавора №16/Р ад 23.12.2019. Ад 01.01.2021 новы дагавор з ТАА «Брестская газета» на выпуск газет заключацца не будзе», – сказана ў лісце.

### Пачалі крымінальную справу ў адносінах да журналісткі tut.by

Генпракуратура пачала крымінальную справу ў адносінах да журналісткі tut.by **Кацярыны Барысевіч** за невыдаванне медыцынскай тайны, што пацягнула цяжкія наступствы (частка 3 артыкула 178 Крымінальнага кодэкса). Гаворка ідзе пра стан загінулага **Рамана Бандарэнкі**. Кацярына была аўтарам артыкула, дзе паказвалася, што ў яго крыві не было алкаголю. Сваякі Рамана прэтэнзій да СМІ і медперсаналу не выказвалі, маці дала згоду на распаўсюджанне інфармацыі аб стане сына. Фігурантам крымінальнай справы з'яўляецца таксама доктар-анестэзіёлаг **Арцём Сарокін**.

**Аддзел інфармацыі паводле БелТА, tut.by, delfi.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Расказваем, ці карэктна казаць, што пенсію плаціць Аляксандр Лукашэнка, і чаму пенсіянерам нявыгадна, каб моладзь з'язджала за мяжу.**

## 5 снежня, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 7-8 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -14,3°С у 1989 годзе
Максімальная тэмпература +8°С у 2008 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,1 мм у 2011 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы ставіцеся да чырвона-зялёнага сцяга?



**Святлана:**
– Па закону ён лічыцца дзяржаўным сцягам. А ўжо асабістыя адносіны чалавека да яго – гэта кожны сам для сябе вырашае. Цяпер асацыяцыі не вельмі прыемныя ў сувязі з тым, што ў нас адбываецца.



**Паліна:**
– Калі шчыра, то ўвогуле без розніцы.



**Віталь:**
— Наш нацыянальны сцяг, як і бел-чырвона-белы. Я вырас у Савецкім Саюзе, чаму мне да чырвона-зялёнага сцяга нармальна не ставіцца. Мне абсалютна ўсё роўна, які сцяг.



**Андрэй:**
– Добра, таму што гэта наш беларускі сцяг. Заўсёды добра да яго ставіўся.



**Міхаіл:**
– Добра стаўлюся, таму што гэта наш чырвона-зялёны беларускі сцяг. А гэты бела-чырвона-белы не падыходзіць.



**Жанна:**
– Станоўча. Гэта сцяг нашай рэспублікі.



**Аліна:**
– Людзі ездзяць з чырвона-зялёнымі сцягамі на аўтазаках, вешаюць яго туды. Усім вядома, што гэтыя людзі з аўтазакаў прымяняюць гвалт.

**Падрыхтаваў Аляксей КАСТОЎСКІ.**


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№49 (1336) 4.12.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 2016. Падпісана ў друк у 9.00 3.12.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.